BULK RATE
US POSTAGE
PAID
Grand Rapids, MI
Permit No. 1141



# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

# BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА
ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 3(51) Красавік 1998 April Год выд. 6.




## ВЯЛІКОДНАЕ СЛОВА Сьв. ЯНА ЗЛАТАВУСНАГА

Калі хто цнатлівы й багалюбны, няхай раскашуецца гэтай добрай і сьветлай урачыстасьцяй. Калі хто слуга разумны, няхай увойдзе з радасьцю ў радасьць Госпада свайго. Калі хто мацаваўся посьцячы, няхай прыйме сёньня плату. Калі хто ад першае гадзіны пасьціўся, няхай прыйме сёньня справядлівую заплату. Калі хто па трэцяй гадзіне прыйшоў, няхай, дзякуючы, весяліцца. Калі хто па шостай гадзіне, няхай ані не сумляваецца, бо ў нічым не адхінаецца. Калі хто дзявятую гадзіну прапусьціў, няхай прыступіць не сумляваючыся і не баючыся. Калі хто толькі ў адзінаццатую гадзіну зьявіўся, няхай не баіцца свайго спазьненьня, бо міласэрны Ўладар: Ён прыймае апошняга так, як першага: супакоіць і таго, хто ў адзінаццатай гадзіне прыйшоў, як і таго, хто працаваў ад першае гадзіны. Ён апошняга мілуе і першаму дагаджае, і таму дае і гэтага ўзнагараджае: і працу прыймае і намер цалуе, учынкі славіць і жаданьне хваліць. Таму ўвайдзеце ў радасьць Госпада свайго: і першыя і другія, заплату прымеце багатыя й бедныя, адзін з адным весялецеся, цешцеся руплівыя й лянівыя, дзень услаўляйце тыя, што пасьціліся, і тыя, што не пасьціліся: усе ўзьвесялецеся сёньня! Стол багаты, раскашуйцеся ўсе! Цялё адкормленае, няхай ніхто не адыйдзе галодны: усе раскашуйцеся на банкеце веры, усе ўспрымеце багацьце ласкаў. Няхай ніхто ня плача над сваёю беднасьцю, бо зьявілася боскае валадарства. Няхай ніхто ня плача над грахамі сваймі, бо выбачэньне з магілы зазьзяла! Няхай ніхто не баіцца сьмерці,бо вызваліла нас ад яе Спасава сьмерць: пагасіў яе Ён, Які быў у моцы ейнай, перамог пекла, зыйшоўшы ў пекла, зьнішчыў яго, скаштаваўшы горыч яго. І гэта прадбачыў Ісая: пекла, кажа Ён, зажурылася, пабачыўшы Цябе. Зажурылася, бо развалілася! Зажурылася, бо Ты зьдзекі прыняў! Зажурылася, бо зьвязалася: прыняўшы Цела, Богу скарылася, прыняло зямлю, а спаткала неба! Прыняло, што бачыла, і паддалося таму, чаго ня бачыла. Сьмерць! Дзе тваё джала? Пекла! Дзе твая перамога? Хрыстос Уваскрос, і ты пераможанае! Хрыстос Уваскрос, і палі дэманы! Хрыстос Уваскрос, і радуюцца анёлы! Хрыстос Уваскрос, і памерлых няма ў магіле! Хрыстос Уваскрос зь мёртвых і стаўся Першым для ўсіх памерлых. І Яму слава, і ўлада, на векі вякоў. Амін.



Хрыстос уваскрос із мертвых, сьмерцяю сьмерць патаптаў і тым, што ў магілах, жыцьцё дараваў.







**Спадар Кастусь МЕРЛЯК —** ведамы грамадзка-палітычны, культурны ды царкоўны дзеяч, вэтэран беларускага вызвольна-незалежніцкага руху, сябра Рады БНР, знаны патрыёт беларускага народу.

Дарагі Спадар Кастусь! Вітаем Вас на старонках нашае незалежнае газэты.




Янка Купала

### ВЯЛІКДЗЕНЬ

Два сьвяты на сьвеце — ад нівы да нівы:
Хрыстос уваскрос! Наступае вясна!
Глянь сьмела, глянь вольна шчасьліў, нешчасьлівы,
І далей к жыцьцю з паніжэньня і сна!

Гэй, гэй, на спатканьне вялікіх двух сьвятаў
Сьпяшэце супольна, хто ў путах ня згніў!
Хай льлюцца-зыльлюцца ад хаты да хаты
Ў вадно ўсе грамады, ўсе людзі ўсіх ніў!

*

Вялікдзень! Вялікдзень! — ад нівы да нівы,
Забыў не адзін з нас нядаўныя дні,
А ўспомні, прыпомні шчасьліў, нешчасьлівы,
Аб тых, што ў сьвітаньні на век адыйшлі, —

Ўсе костачкі тыя на гонях папарных, —
Жывых, што ў бяспуцьці акуцьцем зьвіняць...
Прыпомні, дай слова ня шчэзнуці марна,
Пачатую справу шырыць, расшыраць!

*

Вялікдзень! Вялікдзень! — ад нівы да нівы,
Заводзе бацькоў сваіх песеньку сын.
Зірні-ж, азірніся, шчасьліў, нешчасьлівы,
І заўтра на поле, да сох, як адзін!

Дагэтуль мы плачам, дагэтуль мы стогнем,
Адвечных ня можам пазбыцца сьлёз...
Наперад, па шчасьце! Хай злое ўсё дрогне,
Вясна ўжо на сьвеце, — Хрыстос уваскрос!

1908

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108;—Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Пруські

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

**Калонка "пра набалелае"**

# Я ХАЧУ РАДЗІМЫ...

«Культура»

Я стаміўся... Я стаміўся жыць у бязважкасці... Я стаміўся ад "зон", "садружнасцяў", "саюзаў", аб'яднанняў. Я стаміўся ад размоў пра канфедэрацыі, федэрацыі і інтэграцыі... Я хачу Радзімы... Якой ні ёсць... Мне абрыдла кляймо "памяркоўнасці", якое ляжыць на ўсіх беларусах (прашу не блытаць з нацыянальнасцю, бо маю на ўвазе сваіх суграмадзян: беларусаў, рускіх, украінцаў, палякаў, літоўцаў, яўрэяў, татар), я не магу больш трываць наш правінцыяналізм, калі нашы госці прыязджаюць да нас "как к себе домой". У Кіеве і Вільні правінцыяналізм знік, у Маскве яго ніколі не было... У нас застаўся... Мы, мабыць, адзіная ў свеце дзяржава, дзе патрыятызм успрымаецца са знакам мінус, дзе патрыётам быць проста небяспечна... Не нацыяналістам, а проста патрыётам Рэспублікі Беларусь... Рускім — калі ласка, будзь хоць кім, беларускім — "не могі!" Стагоддзямі ўбіта ў падсвядомасць, калі за Беларусь, значыць, абавязкова супраць некага ці нечага... І самае страшнае, што тут справа не ў палітычных персаналіях, гэта мараль грамадства. Заганная мараль рабскага правінцыяналізму... Франтальны падзел паміж Усходам і Захадам, які спрадвечна праходзіў праз Беларусь, зрабіў з нашае Радзімы Вавілон. Змяшаў мовы, нацыі, светапогляды... Мы — еўрапейская Амерыка з той розніцай, што кожны амерыканец найперш з гонарам скажа, што ён амерыканец, а толькі потым успомніць, што ён немец, яўрэй, галандзец, француз ці афрыканец. А ў нас усё наадварот. Рускія пачуваюць сябе расіянамі, палякі — палякамі, літоўцы — літоўцамі, украінцы — украінцамі, беларусы — кім заўгодна, толькі не беларусамі. Ніхто беларусам сябе не адчувае. Радзімы — нібы няма. Нейкі табар цыганскі, што спыніўся даўным даўно паміж Польшчай і Расіяй. І нікуды не рухаецца, хату сваю ўласную не будуе, гісторыі ўласнай ведаць не хоча, сваімі героямі і паэтамі пагарджае, усё чужое (альбо заходняе, альбо ўсходняе) узносіць да нябёсаў, і... "абы вайны не было..." І швэндаецца праз нас хто заўгодна і з Захаду, і з Усходу, і з Поўдня, і з Поўначы, і карыстаюцца намі, як хочуць, тыя, хто прыязджае да нас "как к себе домой", бо на сваёй радзіме яны даўным даўно ў адстаўцы ці на пенсіі: філосафы, дзеячы мастацтва, палітыкі... Госпадзі, і зноў пра палітыку... Ну, заракаўся ж... Пра мастацтва трэба! Пра мастацтва!

Наш беларускі балет на сённяшні дзень лепшы ў свеце. Наш Вялікі тэатр сёння больш вялікі, чым расійскі. Гэта аб'ектыўна. І я ганаруся, што Валянцін Елізар'еў беларус! Творчасць Янкоўскага-старэйшага здаецца мне глыбейшай, чым Янкоўскага-малодшага, і, дзякуй Богу, што ён беларус... Пры ўсіх нюансах з двух Якубовічаў аддам перавагу Паўлу, таму што ён беларус. І Яроменку старэйшага шаную больш, чым малодшага, з гэтай жа прычыны. І Аляксандр Пушкін не вышэй за Янку Купалу, як Багдановіч не лепш за Ясеніна...

Толькі чаму ж я гэтыя простыя ісціны пачаў разумець так позна? Таму што беларус...

**Аляксей ДУДАРАЎ**

**БЕЛАРУСКІЯ ПАТРЫЁТЫ! Дзе-б вы ні былі, заўсёды і адважна змагайцеся за беларускую БЕЛАРУСЬ!**

STATE OF OHIO
Executive Department
OFFICE OF THE GOVERNOR
Columbus

**RESOLUTION**

**WHEREAS,** The Belarusan American Association will commemorate the 80th Anniversary of the Independence of the Republic of Belarus of March 25, 1918 with a program at the Belarusan American Community Center on March 29, 1998 in Strongsville, Ohio; and

**WHEREAS,** Ohio is proud to be called home by many people of Belarusan ancestry - individuals who contribute daily to the vast social fabric of America and to the quality of life in the State of Ohio through dedication to the values of family, hard work and faith, among others, and through civil services, science, education, sports, business, and industry; and

**WHEREAS,** This office recognizes the importance of the rich cultural heritage and family values which are passed along to future generations through Belarusan-American social, cultural and religious organizations, such as the Belarusan American Association; and

**WHEREAS,** The commemorative program will feature an address by keynote speaker, Nikolas Prusky, of Grand Rapids, Michigan, Publisher and Editor, Belarusian Digest, on "Freedoms of the Press in Belarus" and current events; and

**WHEREAS,** I would like to recognize and acknowledge John Chanenka, President, and John Rakovich, Vice-President, Belarusan American Association, other officers, members, families, and friends of the Belarusan-American community in Greater Cleveland for their contributions to the success of this celebration, for contributing to the multicultural diversity of the State of Ohio, and for working toward our common goals of peace, liberty and democracy.

**NOW, THEREFORE, I, GEORGE V. VOINOVICH,** Governor of the State of Ohio, am delighted to join with all Ohioans in acknowledging the contributions of the Belarusan-American community to the state, and hereby designate March 25, 1998 as

**BELARUSAN INDEPENDENCE DAY**

throughout the State of Ohio, and invite all multicultural communities, especially the Belarusan-American community, to join in appropriate observances and celebrations of this most distinguished occasion.

On this 25th day of March, 1998,

George V. Voinovich
Governor






GEORGE V. VOINOVICH
GOVERNOR

STATE OF OHIO
**OFFICE OF THE GOVERNOR**
COLUMBUS 43266-0601

March 25, 1998

Mr. Nikolas Prusky
Publisher & Editor
Bielarusan Digest
1086 Forest Hills Avenue SE
Grand Rapids, Michigan 49546-3616

Dear Mr. Prusky,

It is with great pleasure that I extend my congratulations upon the 6th Anniversary of your publication, Bielarusan Digest.

The Bielarusan Digest is an excellent source of national, community and cultural news for many Belarusan-Americans, especially in the State of Ohio. You are to be commended for your dedication and perseverance as you celebrate your publication's 6th anniversary.

As you may know, I have always supported self-determination and independence for the former captive nations, and I will continue to do everything I can to ensure that the Republic of Belarus continues on a path to democracy and free-market economies and remains among the community of free nations. For your information, enclosed is a copy of the resolution designating March 25, 1998 as "Belarusan Independence Day" in the State of Ohio.

In the meantime, please keep in touch with my office through Paul Wasilewski, Administrative Assistant for Multicultural Affairs & International Relations, at 614-644-0894.

Again, congratulations on your 6th anniversary. God bless you.

Sincerely,

George V. Voinovich
Governor



cc: John Chanenka, President,
Belarusan American Association
Cleveland Branch



## ЦУД У БЕРАСЬЦІ

**Незвычайная зьява зафіксавана ў Сьвята-Мікалаеўскай царкве Берасьця. Ад іконы сьвяціцеля Мікалая Цудатворца, якая знаходзіцца ў алтары царквы, пачало зыходзіць цяпло. Адчуваецца яно пры непасрэдным судакраненьні з абразом. Аб гэтым цудзе вернікам паведаміў настаяцель храма айцец Міхась. Ікона сьвяціцеля Мікалая зьявілася ў храме ў 1990 годзе. Царкве перадаў яе Берасьцейскі музэй выратаваных каштоўнасьцяў, куды яна трапіла ад пагранічнікаў, якія канфіскавалі ікону на граніцы пры спробе вывазу яе на Захад.**

## НЕДАХВАТ ВАДЫ

**Жорсткія меры накіраваныя на эканомію пітной вады ўвялі ўлады Пінска. Гараджанам забаронена з 6 да 21 гадзіны паліваць цяпліцы і агароды з гарадзкога водаправода. Акрамя таго прыпынена падключэньне да вадаправода некаторых прадпрыемстваў. Вадой будуць яны забясьпечаны толькі пры ўмове долевага ўдзелу гэтых арганізацыяў у фінансаваньні марапрыемстваў па развіцьці магутнасьцяў водазабораў.**

**Прыняцьце такіх неардынарных пастаноў выклікана значным дэфіцытам пітной вады ў Пінску (штосутачна не хапае 15-16 тысяч кубічных мэтраў).**

## МІТРАПАЛІТ ВАСІЛЬ ПАМЁР

**11-га лютага 1998 г. ў Варшаве памёр мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы Васіль (Уладзімір Дарашкевіч). Уладыка Васіль быў беларускага паходжаньня, але перакананым русафілам і вялікадзяржаўнікам маскоўскага накірунку. І ён, і ўзначальваная ім у Польшчы праваслаўная царква, адкрыта цураліся ўсяго беларускага. А трэба памятаць, што вернікамі праваслаўнае царквы ў Польшчы зьяўляюцца ў большасьці беларусы і ў меншай меры ўкраінцы...**

## МАСКОЎСКІ ПАТРЫЯРХ любіць Беларусь...

**Маскоўскі Патрыярх Аляксей II наведае Беларусь ужо ў трэйці раз. Відаць у Беларусі яго прымаюць і дораць лепш чым у Расеі.**

*

**Да чэрвеня 1998 г. у Беларусі намераны сабраць патрэбную колькасьць подпісаў, каб магчы правесьці прэзыдэнцкія выбары ў 1999 годзе. Пажывем, пабачым...**

# “І пройдзе час нялюбасьці і зла...”

Насьцёна Пятроўская, “БМ”

Лёсам нам было дадзена зведаць страшную тайну ГУЛАГа. ГУЛАГа — не ў геаграфічным ці гістарычным сэнсе — а як Крыжа, які несла цэлая краіна і кожны паасобку.

Тыя, хто перажыў змрочныя часы — пашанцавала, ці то проста прага жыцця была настолькі моцнай, што нават сталінскія каты не здолелі зламаць фізічна, душэўна — гэтыя людзі не часта ўспамінаюць усе тыя жахі, што з імі адбываліся. Не ўспамінаюць уголас, але дзесьці ў самай глыбіні сэрца і розуму хаваецца памяць. Памяць пра пакуты, калі фізічны боль ужо не адчувальны з-за болю душы. І як, напэўна, цяжка было літаральна прымусіць сабе застацца чалавекам, не страціць пачуццё ўласнай годнасці, адчуванне сваёй непаўторнасці...

Наша беларуская паэтка Ларыса Геніюш прайшла праз усё, і ўсё вытрымала. Увогуле жанчыне ў лагерах было асабліва цяжка. У першую чаргу з-за першапачатковага яе высокага прызначэння — там з сімвала мацярынства, кахання, сямейнага шчасця яна ператваралася проста ў “ворага народа”. Рэч, з якой любы канваір ці ахоўнік мог зрабіць усё, што прыйдзе ў яго вычварэнскія думкі — збіць, згвалціць. І нават смерць дзіцяці тады не была чымсьці надзвычайным. “Сбівая чёрным сапогом с травы хрустальную росу...”

Ларыса Геніюш пакутвала не менш за іншых. І нават болей. Лагернае “начальства”, пэўна адчуваючы яе ўнутраны моц, адразу ж неўзлюбіла Ларысу. Каб апусціць, зламаць, прынізіць, “даручала” ёй самую брудную і цяжкую працу. А яна вывозіла нечыстоты, прышывала, не разгінаючы спіны, бясконцыя гузікі на салдацкія шынялі, і ўсё гэта — з усмешкай, не зварතаючы ўвагі на здзекі ахоўнікаў. У той час балеў іншы боль — за сваю Радзіму, за сваю Беларусь.

**“Мне жыцьця для Цябе не шкада,**
**паэтыцкім мы зроднены духам,**
**Бог і сьлёзы на тое мне даў,**
**каб цябе заліваць у час засухі.**
**І на тое мо сэрца ў грудзёх,**
**каб сагрэць цябе словам і чынам**
**І на тое натхненьне даў Бог,**
**каб Цябе апяваць безупынна”.**

Ларыса Геніюш у лагеры была сапраўднай лягендай. Усе ведалі, хто яна такая, яе вершы цішком, часам з рызыкай для жыцця перасылаліся ў суседнія лагеры. Для палітзэкаў-мужчын яна ўяўляла вобраз маці, старэйшай сястры, якая давала надзею і шанец на выжыванне.



А свой боль яна выносіла на паперу. Кожны радок б’е нас хваляй пранізлівай любові да сваёй, ненашай Бацькаўшчыны. Боль-любоў — гэтыя словы чымсьці падобныя, згадзіцеся.

Імя Ларысы Геніюш нямногім штосьці скажа. Гэта тут, на яе Радзіме. У свеце яе ведаюць і шануюць і ўжо не ўяўляюць беларускую культуру без вершаў Ларысы Геніюш. І зараз, пасля смерці, Геніюш зноў — “вораг народа”.

Мы зноў адмаўляемся ад свайго мінулага. І ўжо не разумеем, што словы “без мінулага няма будучыні” — не проста словы. Каб ісці далей, трэба ад чагосьці адштурхнуцца — ад нейкай “скрыні”, дзе сабрана ўсё добрае і дрэннае, назапашанае за гады і стагоддзі. А калі з-пад ног выбіваюць скрыню — звычайна бліжэйшай перспектывай становіцца пятля...

Некалькі год таму ў клуба “Спадчына” нарадзілася ідэя стварыць помнік Ларысе Геніюш. Памяць, захаваная ў метале, — гэта таксама памяць. У лютым гэтага года помнік быў створаны. Яго аўтар — зямляк Ларысы Геніюш Міхась Інькоў. Але гэтая праца была б немагчымай без намаганняў яго аднадумцаў — гісторыка Міхася Чарняўскага і старшыні клуба “Спадчына” Анатоля Белага. Грошы на помнік беларускай паэтцы збірала наша дыяспара ў Амерыцы, куды Анатоль Белы спецыяльна з’ездзіў і звярнуўся па дапамогу.

Зараз помнік Ларысе Геніюш знаходзіцца ў Мінскім Доме літаратараў. Гэта яго часовы прытулак — клуб “Спадчына” мяркуе ўсталяваць яго ў Зельвах, дзе жыла і тварыла паэтка. Мясцовыя ўлады быццам бы і не супраць — на словах, а на самой справе чакаюць як адрэагуе вышэйшае кіраўніцтва?

Гэтай падкрэсленай абыякавасцю дзяржава яшчэ раз паказала, што не зроблена ёю ніякіх высноў з той страшэзнай трагедыі, а зламаны лёс Ларысы Геніюш і мільёнаў падобных не стаў трагічным вопытам, ад паўтарэння якога ў будучыні трэба засцерагчыся. Але гэта дзяржава — не Беларусь!

Нягледзячы на тысячы кіламетраў, што аддзялялі Геніюш ад Бацькаўшчыны, жыццё яе, думкі яе былі неразрыўна звязаны з Беларуссю. І нават час не зможа разлучыць іх.

**...Ясьнейшых дзён у Бога дачакаем,**
**і пройдзе час нялюбасці і зла.**
**О, знай тагды, што для Цябе, мой Краю,**
**мой шматпакутны, для Цябе жыла...**

Сяргей ГРАХОЎСКІ

## СПАДЗЯВАНЬНЕ

*НАЗВАНАМУ БРАТУ*

Цябе ашуквалі спакон вякоў
Ад Кацярыны да бальшавікоў,
Якія ў д’ябальскім запале
І абалванілі, і ашукалі —
Ад Агітпропа да турмы
Прайшлі усе навукі мы.
Вывозілі сумленных у Сібір,
А гэта звалі “барацьбой за мір”.
З утульных хатаў і двароў
Загналі ў пекла ўсіх гаспадароў.
Стралкі начамі, каб ня чулі енку,
Цераз галовы зрашацілі сьценкі.
Араты калаціўся жоўтым лістам,
Не разумеючы, як стаў “нацы..налістам”,
Таму, што ў полі, ў лесе, ў хаце
Так гаварыў, як навучыла маці,
Ён з родным словам сьнедаў і абедаў,
А як іначай гаварыць, ня ведаў,
За тое і загналі ў кутузку,
Што толькі гаварыў пабеларуску,
Хто абмінуў выпадкам Курапаты,
Таго ў калымскія загналі спраты:
Адны зьнікалі праз паўгода,
Другія, — калі спрах Ягода,
Без дамавіны, без крыжоў
Пайшоў за імі сьледам і Жкоў.
Каб не палохацца і не азмрочваць сьвятаў
Галоўны кат расстрэльваў меншых катаў.
Мільёны зэкаў з біркай на назе
Зьнікалі ў цёмных шахтах і ў тайзе,
А ў сталіцы нашай, над ГУЛАГам,
Дрыжала дрэўка пад дзяржаўным сьцягам
Пад ім прапагандысты ўсіх масьцей
“Выхоўвалі” дарослых і дзяцей,
І гэты сьцяг высока так узьнялі —
Каторы раз наіўных ашукалі.
Чамусьці захацелі ашуканцы,
Каб мы забалбаталі на “трасянцы”.
Не разумеючы ні глупства, ні віны,
Іх страшыць праўда нават даўніны,
А тая праўда праўдаю была
Яшчэ да двухгаловага арла...
...Міне бязладзьдзе, наш ня зьнікне род,
Ізноў народам стане наш народ,
Каб з добрымі суседзямі дружыць
І незалежна красаваць і жыць.
1994

# «Гэта было ўжо ў вяках, што былі да нас»

**/суб’ектыўны роздум з Евангельлем у руках/**

...Хрыстос пацярпеў поўнае фіяска на тых землях, дзе прапаведаваў. Яго новае вучэнне народ не прыняў, і яно прывяло Ісуса на крыж. І хоць жыццёвы шлях Хрыста быў запраграміраваны Усявышнім, тым не менш, шанцаў на поспех у Яго не было з самага пачатку.



Ісус прапаведаваў сярод народа, які ўжо многія пакаленні верыў у «свайго» Бога, меў «свой» Закон. Ад будаўніцтва Храма ў Ерусаліме мінула тысяча гадоў. За такі вялікі адрэзак часу яўрэі і іх рэлігія ўжо ўяўлялі адно цэлае. Навацыі Хрыста пусцілі б карэнне толькі ў тым выпадку, калі б не супярэчылі догмам іудаізму, а зыходзілі б з іх.

Задача, якая стаяла перад Хрыстом, была каласальная па свайму маштабу і задуме: даць Новы Запавет усяму чалавецтву. Яна не вырашана і сёння. Уся дзейнасць Хрыста мела ярка выражаную палітычную афарбоўку, бо закранала ўсе слаі грамадства, устоі дзяржавы, пагражала ўсталяванаму ладу жыцця.

*— Калі пакінуць Яго так, то ўсе паверацъ у Яго, — і прыйдуць Рымляне і заваладаюць месцам нашым і народам* ***(ад Яна гл. 11:48)***.

Хрыстос не валодае палітычнай гнуткасцю, не жадае быць дыпламатам. Ён вышэй за гэта. Зямныя звадкі не для Яго.

Першасвятары варожа настроены супраць Хрыста, бо ведаюць, якую пагрозу нясе яго вучэнне. Але і для Ісуса яны таксама фарысеі, крывадушнікі, кніжнікі, якія трымаюць народ у цемнаце. Святары хочуць, каб усё заставалася па-старому, а Хрыстос, наадварот, сее ў душах людзей зярняты сумніву, імкнецца парушыць асновы веры... Хоча, каб народ пайшоў за ім. Гэта — з аднаго боку, а з другога складваецца ўражанне, што Ісуса мала турбуе той факт, што людзі Яго не разумеюць. Мала гэтага, Хрыстос спецыяльна робіць, каб Яго словы не даходзілі да народа.

З людзьмі Хрыстос гаварыў прытчамі, якія народам успрымаліся цяжка, альбо сэнс іх да яго не даходзіў. Але што людзі, вучні Хрыста часта не могуць уразумець, аб чым ідзе размова.

*«...Якія дзіўныя словы! Хто гэта можа слухаць?»* ***(ад Яна гл. 6:60)*** — гавораць яны і адыходзяць ад свайго настаўніка.

Але ў Хрыста быў дваякі падыход. Яго мала турбавала, як успрымаюць Яго людзі. Іншая справа вучні.

*«Без прытчы не гаварыў ім (людзям), а вучням адзін на адзін тлумачыў усё»* ***(ад Марка гл. 4:34)***.

І гэта не выпадковасць. Хрыстос спецыяльна не гаворыць з народам даходліва, бо *«...яны бачачы не бачаць, і чуючы не чуюць, і не разумеюць* ***(ад Матфея гл. 13:13)***.

... — Я ёсць хлеб жыцця... веруючы ў мяне мае жыццё вечнае... Я ёсць уваскрэсенне і жыццё: веруючы ў мяне, калі і памрэ, ажыве.

Чуючы гэта, людзі хапалі каменне, каб пабіць Хрыста. А Ён пытаўся ў іх, чаму яны хочуць пабіць яго за добрую справу? І Хрысту адказвалі *«...не за добрую справу хочам пабіць Цябе каменнем, а за богазневажанне, за тое, што Ты, будучы чалавекам робіш Сябе Богам»* ***(ад Яна гл. 10:33)***.

...Не казанні, не прытчы і мудрыя словы прыцягвалі да Хрыста мноства народу, а цуды.

Цяжка паверыць, што браты-рыбаловы пакінулі радню, лодкі, сеткі... і пайшлі за Хрыстом толькі таму, што ён сказаў: *«Ідзіце за Мною, і я зраблю вас лаўцамі чалавекаў»* ***(ад Матфея 4:19)***.

Трое евангелістаў падзею падаюць менавіта так, і толькі Лука ўносіць яснасць. Сапраўды, Хрыстос найперш зрабіў цуд: напоўніў іх лодкі рыбай так, што яны пачалі танучь. Вось тады рыбаловы і пайшлі за Ісусам, сталі яго вучнямі.

А што словы?! Прыйшоў Хрыстос прапаведаваць у родныя мясціны, а землякі не прызнаюць у ім Сына Божага, гавораць: *«А ці не плотнік гэта? Дык гэта ж сын Іосіфа! Вось яго браты і сёстры! Адкуль на Яго найшло ўсё гэта?»*

Вось тады Хрыстос і сказаў, што няма прарока ў сваёй Айчыне і, не сатварыўшы цудаў, пакінуў Назарэт.

Многае з таго, пра што гаварыў Хрыстос, сёння ўспрымаецца як чысты папулізм.

Знешне здавалася, што ідзэі Ісуса прыцягваюць людзей. Тысячныя натоўпы ішлі за ім, але толькі для таго, каб пабачыць чарговы цуд. Кожны чалавек, убачыўшы на свае вочы, што за дзівосы робіць Хрыстос, павінен быў бы назаўсёды стаць яго прыхільнікам. Да Ісуса ніхто падобнага не рабіў. Але замест таго, каб паверыць Хрысту, людзі разважаюць: «А хто Ён такі?»

І не Пілат укрыжаваў Хрыста, а народ. Увесь народ стаў крычаць: *«Смерць Яму!»* ***(ад Лукі гл. 23:18)***

Вельмі хутка людзі забылі, як тысячы былі накормлены Хрыстом. Усім хапіла хлеба і рыбы, але не хапіла веры ў Пасланца Бога.

# Хто панясе святло?

ЛіМ.

Даўно заўважана, што прыродныя катаклізмы прыпадаюць найчасцей на перыяды змены стагоддзяў і тысячагоддзяў, хоць зразумець прычынную сувязь гэтай з'явы цяжка. Адно відавочна, што гэтыя катаклізмы непасрэдна закранаюць чалавека, і ён вымушаны шукаць выйсце з узнікаючых складаных сітуацый. Гэтыя пошукі не заўсёды адбываюцца спакойна, і тады ўжо ў грамадстве могуць узнікнуць і ўзнікаюць сітуацыі, наступствы якіх не заўсёды прадказальныя.

Артыкул прафесара М. Крукоўскага "Запаліць святло ў душах..." ("ЛіМ", N 45 за 7 лістапада 1997 г.) — цікавы аналітычны роздум аб сённяшняй рэчаіснасці на абсягах дэюрэ незалежнай краіны — Рэспублікі Беларусь. Гэта пошук шляхоў выйсця з небяспечнай зоны перакрыжавання глыбінных разломаў у нашым грамадстве, што ўзніклі пасля краху таталітарнага бальшавіцкага рэжыму.

Прачытаў я артыкул і пашкадаваў, што напісаны ён на ўзроўні, да якога, на жаль, не дацягвае большасць нашых сярэднеадукаваных людзей у вёсках і раённых цэнтрах. Разумею, што артыкул надрукаваны ў газеце творчай інтэлігенцыі, а значыць і прызначаны ёй — у першую чаргу. А як быць з гэтай большасцю ў раённых цэнтрах і вёсках, якая, акрамя афіцыйнай інфармацыі па БТ Зімоўскага і Хрушчовай, нічога іншага не чуе і пакуль што не імкнецца пачуць, якая газет, акрамя сваёй раёнкі, не чытае? Хто данясе да іх іншы погляд, каб яны калі не зразумелі, дык хоць бы ўбачылі, што ёсць і іншыя думкі?

І раптам у самым канцы артыкула я знайшоў адказ на ўзнікшае ў мяне пытанне: "Таму менавіта беларуская інтэлігенцыя і павінна запаліць у сваіх душах святло новых, сапраўды жыццядзейсных ідэалаў на аснове абсалютных каштоўнасных арыенціраў, каб несці яго ў народ..." Яно, безумоўна, так. Аднак жа — дзе ты, беларуская інтэлігенцыя, адгукніся!

Міжволі прыгадвалася: дзе была беларуская інтэлігенцыя,калі сядзеў за кратамі сапраўдны інтэлігент і патрыёт Беларусі прафесар Юрась Хадыка? Чаму не ўзняла свой голас пратэсту? А калі ўзнімала, дык чаму яго не было чуваць? Маю на ўвазе шматлікую армію творчай і тэхнічнай інтэлігенцыі, голас якой павінен быў прагучаць, бо само паняцце слова інтэлігент азначае чалавек разумны, чалавек, які ўмее думаць. Дык чаму ж не было чуваць голасу беларускай інтэлігенцыі?

Адказ для мяне відавочны. Сапраўдная беларуская інтэлігенцыя была знішчана бальшавікамі фізічна, а яе месца заняла створаная **пралетарыятам** — "рабочая інтэлігенцыя", якая "...всего решительнее и всего точнее отражает и выражает развитие классовых интересов и политических группировок во всем обществе" (У. Ленін, творы, 4 выд., т. 7, стар. 30).

Але пры ўсіх рэжымах, нягледзячы на рэпрэсіі, на намаганні падпарадкаваць інтэлігенцыю, у яе асяроддзі заўсёды ўзнікала апазіцыя ўладам, і з гэтай апазіцыяй нікому яшчэ не ўдалося цалкам расправіцца. Так было і ў былым СССР пасля палітычнай адлігі шасцідзесятых гадоў, калі з'явіліся дысідэнты. Ні ГУЛАГ, ні псіхушкі не справіліся з гэтай з'явай. А ў канцы васьмідзесятых — пачатку дзевяностых гадоў з асяроддзя інтэлігенцыі пайшлі новыя парасткі нацыянальнай інтэлігенцыі, якія на падмурку нацыянальнай ідэі пачалі самааддана працаваць на ніве адраджэння.

Але ўжо тады было бачна, што адраджэнскі рух быў сканцэнтраваны ў асноўным у сталіцы. Што тычыцца глыбінкі, дык там справы ў гэтым накірунку ішлі значна марудней.

Я ў той час працаваў старшынёй Слаўгарадскага гарсавета, і паколькі ўсе ведалі маё стаўленне да нацыянальнай ідэі, да адраджэнскага руху, пераважная большасць раённых чыноўнікаў у размовах са мной карысталася беларускай мовай. У дзіцячых садках выхавацелькі з дзецьмі размаўлялі на беларускай мове, і дзеці, як губка, упітвалі ў сябе кожнае роднае слова.

А вось у школах рэальнасць была больш стракатая. Я, напрыклад, не магу назваць, бадай, ніводнага настаўніка беларускай мовы і літаратуры, для якога галоўным накірункам сваёй прафесійнай дзейнасці была б нацыянальная ідэя.

Вось чаму так лёгка яны без бою здалі свае пазіцыі, як толькі было прынята двухмоўе, якое непазбежна павінна было вызначыць і вызначыла курс на русіфікацыю.

І ўсё ж я задаю пытанне, якое трэба задаць: што перашкаджае сёння гэтаму настаўніку на падставе дзейнічаючай Канстытуцыі справай даказаць сваю прыналежнасць да інтэлігенцыі? Перашкаджае адно: сённяшні настаўнік ніколі, на жаль, не належаў да інтэлігенцыі! У лепшым выпадку ён быў больш-менш інтэлектуалам, а ў большасці сваёй — рамеснікам.

Так гістарычна склалася, што кожная ўлада імкнулася выкарыстоўваць інтэлігенцыю ў сваіх палітычных мэтах. Так было да кастрычніка семнаццатага года, так было і ў савецкія дзесяцігоддзі. Найбольш таленавітую творчую інтэлігенцыю ганаровымі званнямі, прэстыжнымі прэміямі, матэрыяльным дабрабытам улады сабралі ў элітарную рэзервацыю. Пропускам быў не гэтак талент, як гатоўнасць кожным сваім словам ухваляць палітыку партыі і ўрада, цвёрда стаяць на пазіцыях сацыялістычнага рэалізму.

Што тычыцца шматлікай вясковай інтэлігенцыі, дык аб ёй бацька народаў у свой час сказаў, што яна ў неаплатным даўгу перад народам. І народ узяў гэта на заметку і да кожнага, хто насіў гальштук, апранаўся чыста, не мацюкаўся, "простыя людзі" адносіліся як да людзей, што не прыносяць ніякай карысці, а само слова "інтэлігент" сярод гэтага народа гучала абразліва. Калі скажуць "інтэлігент" ды яшчэ абавязкова дададуць "смярдзючы" — гэта азначала, што гэтаму небараку павагі да сябе не трэба чакаць.

(Памятаю, як аднойчы ў школу прыйшоў вясковы хлопец (вучань восьмага класа) у белай кашулі з гальштукам. Да нас у клас збегліся вучні з іншых класаў. Узняўся рогат. Мы крычалі яму: "Прыбраўся, інтэлігент смярдзючы!" А ў нашага таварыша быў дзень нараджэння, яму споўнілася шаснаццаць гадоў, ён атрымаў права на пашпарт Грамадзяніна краіны, у якой нарадзіўся, жыў і вучыўся. З гэтай нагоды ён па-святочнаму апрануўся...)

Гэтай знявагі не магла не адчуваць шматлікая армія сельскіх настаўнікаў, бібліятэчных і клубных працаўнікоў. І яны пакорліва пайшлі туды, куды іх накіроўвалі палітычныя сілы, што былі пры ўладзе. І толькі адзінкі не прынялі гэтую мімікрыю дзеля асабістага ўратавання. Бо яны, гэтыя адзінкі, былі нашчадкамі той правінцыяльнай інтэлігенцыі, якая з пакалення ў пакаленне, нягледзячы ні на якія цяжкасці, прытрымлівалася паняццяў маралі і гонару, міласэрнасці, добрасумленнай працы, прыстойнасці.

Таму, як гэта ні прыкра, трэба прызнаць, што пакуль на Беларусі не ўзыдуць новыя маладыя парасткі інтэлігенцыі, якія будуць трывала абапірацца на нацыянальную ідэю, якія адкрыта панясуць яе ў народ, усё застанецца гэтак, як ёсць, бо сённяшняя інтэлігенцыя няздольная "запаліць у сваіх душах святло новых, сапраўды жыццядзейсных ідэалаў", а значыць, у народ ёй пакуль што няма чаго несці.

**Фелікс ШКІРМАНКОЎ**

*г. Слаўгарад*

Мал. Г. МАЙОРЕНКА



— Прапаную праграму эканамічнага ўздыму!!!

*«БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ»* чакае Вашае ахвяры на ВЫДАВЕЦКІ ФОНД!!!

# ПОЛЬШЧА ЦЯПЕР — ЗАГРАНІЦА

"ЧЫР. ЗЬМЕНА"

***Падобна, што скандальная сітуацыя, якая ўспыхнула на беларуска-польскай граніцы ў канцы мінулага — пачатку гэтага года, пачынае крыху праясняцца і стабілізавацца. У Варшаву для кансультацый паміж міністэрствамі замежных спраў выехаў начальнік консульскага ўпраўлення Міхаіл Аляксейчык. На сённяшні дзень ужо ўсе пытанні па парадку перасячэння сумеснай беларуска-польскай граніцы вырашаны.***

Цяпер, згодна з Законам Рэспублікі Польшча "Аб іншаземцах", асобы, якія жадаюць праехаць на тэрыторыю краіны, павінны купіць ваўчары новага ўзору, кошт якіх складае каля 600 тысяч рублёў. Акрамя таго, трэба забраніраваць месца ў польскім гатэлі і мець пацвярджэнне, што беларускаму госцю ў Польшчы ёсць дзе спыніцца.

Для камандзіровачных патрэбен арыгінал запрашэння прымаючага боку.

Турысцкія групы афармляюць паездку праз турбюро і могуць адпраўляцца толькі пасля аплаты ў валюце ўсіх паслуг, якія будуць ім аказаны ў Польшчы. Гэта павінна быць пацверджана ў дакуменце, які і трэба браць у дарогу, — на граніцы праверацъ.

Прасцей будзе разабрацца ў новых правілах тым, хто адпраўляецца па прыватнаму запрашэнню. Звоніш ці пішаш, напрыклад, бабулінаму стрыечнаму пляменніку ў Бяла-Падляску або знаёмцу з Чанстахова, што стаялі некалі разам у гандлёвых латках на Варшаўскім стадыёне, і просіш прысланіць запрашэнне, завераное ў ваяводстве. Дзейнічае яно 90 дзён. Акрамя таго, той, хто запрашае, нясе поўную адказнасць за свайго госця, аплачвае ўсе паслугі за яго. Прасцей кажучы, ложак для начлегу ды хаця б кубак кавы на снеданне.

І яшчэ адна ўмова: без грошай у Польшчу не пусцяць — 40 долараў на кожныя суткі гасцявання трэба мець абавязкова.

У консульскім аддзеле нашага Міністэрства замежных спраў новыя правілы пракаменціравалі... станоўча. Канешне, не вельмі добра атрымалася, што польскі бок пачаў прымяняць іх паспешна, загадзя не папярэдзіўшы суседзяў-беларусаў. У выніку ўзнікшых непаразуменняў прыйшлося нават рэкамендаваць грамадзянам часова ўстрымацца ад паездак. Аднак крок гэты цывілізаваны, законны, і цяпер робіцца ўсё, каб растлумачыць новыя правілы і давесці іх да ведама ўсіх, каго яны тычацца. Польскі закон, лічаць у беларускім МЗС, патрабуе адказнасці і ад сваіх грамадзян, якія запрашаюць гасцей, і ад турыстычных фірмаў. Чалавек, які прыехаў у чужую краіну, не павінен бадзяцца па вакзалах у пошуках начлегу ды без грошай. На наша пытанне, ці не абмяжуе гэты закон дзеянні так званых камерцыйных турыстаў, у міністэрстве так не лічаць. Калі ласка, няхай купляюць ваўчар, усё афармляюць — і не будзе ніякіх перашкод.

Хаця ні для каго сёння не сакрэт, што "чаўнакі" нашы не вельмі часта карыстаюцца паслугамі гатэляў.

Дарэчы, мы пацікавіліся, што наконт новых правіл думаюць самі польскія грамадзяне. Аказваецца, яны таксама не вельмі задаволены дзеяннямі сваіх улад, лічаць, што яны ў некаторай ступені абмяжоўваюць іх правы і падзяляюць нашу незадаволенасць. У рэшце рэшт, правілы гэтыя дзейнічаюць толькі на беларускай і расійскай граніцы, а літоўскай і ўкраінскай яны не тычацца.

Застаецца толькі спадзявацца, што да нязручных правілаў мы ў рэшце рэшт прывыкнем, і суседняя Польшча не ператворыцца ў непрыступны рубеж.

***Лілія КРАПІВІНА.***

# ПАСТАНОВА № 9

Камітэт Ушанаваньня ў складзе Анатоля Белага (старшыні), Анатоля Грыцкевіча і Леаніда Лыча (заступнікі), сяброў — Васіля Быкава, Рыгора Барадуліна, Міколы Ермаловіча, Язэпа Юхо і сакратара Юлі Жукавай

пастанавіў

з нагоды 80-годзьдзя абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі і за заслугі перад Бацькаўшчынай ганараваць Кубкам Спадчыны з выявай старажытнага гербу Беларускай Дзяржавы «Пагоня» і пазначэньнем прозьвішча ганароўцы, з уручэньнем дыплому і запісам у кнігу гонару "Рупліўцы тваё, Беларусь" наступных дзеячоў беларускага замежжа:

1. **Данчыка Андрусышына** — за выкананьне цыклу патрыятычных песень пра Беларусь;
2. **Др. Раісу Жук-Грышкевіч** — за выданьне кнігі ўспамінаў пра старшыню Рады БНР Вінцука Жук-Грышкевіча і актыўны ўдзел у жыцьці беларускай дыяспары;
3. **Кастуся Мерляка** — за выданьне ў ЗША і перавыданьне на Бацькаўшчыне кнігі ўспамінаў "Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі", фундацыю на помнік Ларысе Геніюш;
4. **Міколу Прускага** — за выданьне ў ЗША газэты "Беларускі Дайджэст";
5. **Івонку Сурвілу** — за стварэньне цыклу твораў выяўленчага мастацтва прысьвечаных Беларусі, і прапаганду іх у сьвеце;
6. **Сьвятлану Белую** — за выданьне часопіса "Полацак" і шчодрыя ахвяраваньні на беларускую справу;
7. **Янку Ханенку** — за актыўнае наладжваньне сувязяў паміж Бацькаўшчынай і Кліўлендзкай каленіяй Беларусаў у Амэрыцы;
8. **Антона Шукейлойца** — за актыўную грамадзкую дзейнасьць і наладжваньне цесных сувязяў паміж Бацькаўшчынай і беларускай дыяспарай Амэрыкі;
9. **Др. Анатоля Бярозку** — за шчодрыя ахвяраваньні на беларускую справу;
10. **Др. Уладзіміра Набагеза** — за шчодрыя ахвяраваньні на беларускую справу;
11. **Анатоля Лук'янчыка** — за шчодрыя ахвяраваньні на беларускую справу;
12. **Кацярыну Вініцкую** — за шчодрыя ахвяраваньні на прмнік Ларысе Геніюш;
13. **Міколу Грэбеня** — за шчодрыя ахвяраваньні на помнік Ларысе Геніюш;
14. **Міколу Латушкіна** — за шчодрыя ахвяраваньні на помнік Ларысе Геніюш.

Старшыня Камітэту Ўшанаваньня — *Анатоль Белы*
сакратар — *Юлія Жукава*

# Ці трэба баяцца рыжых?

*ЛіМ,*

Алесь ГІБОК-ГІБКОЎСКІ

ПРАФЕСАР Юрый Хадыка — постаць на нашым палітычным Алімпе прыкметная. Гэта ўзважаны і цвярозы палітык, а па вялікім рахунку, дык мудры і... хітры. Мудры — слова прымальнае. А вось — хітры? Мяркую, што ва ўмовах перманентных рэвалюцый і ўсялякіх -ізмаў з рознымі тварамі — ад лысых да вусатых, што раз-пораз "наязджаюць" на нашую зямлю, гэтае слова — ці не найлепшы камплімент. Не схітрыш ці не абхітрыш — дык і не выжывеш. Так і выжывалі браткі-беларусы. А якраз той часткі нашай палітычнай эліты, што выбрала для сябе ролю апазіцыі ўладзе, хітрасці (параўнальна з уладамі) моцна бракуе.

Зрэшты, што да Юрыя Віктаравіча, чалавека, які варты самай вялікай павагі, то ягоная "хітрасць", на наш погляд, не вымагае нейкай адмысловай расшыфроўкі. Гэты палітык не імкнецца атакоўваць "танкі" з шабляю. Прабіваць сцяну (пакуль даволі трывалую) тых самых -ізмаў уласным ілбом — занятак няўдзячны. Лепш, бадай, шукаць шляхі яе абыходу... І "не корысти ради", і не па "простоте душевной", а дзеля агульных палітычных інтарэсаў сіл, што называюць сёння сябе апазіцыяй існуючай уладзе.

Якраз пра гэта сведчыць і нядаўні артыкул Ю. Хадыкі ў "Народнай волі" пад назваю "Простота хуже воровства", напісаны, для большай даходлівасці, на рускай мове.

Сітуацыя, якую закрануў у сваім матэрыяле шаноўны прафесар, сапраўды патрабуе (і даўно ўжо!) "взвешенного и внимательного анализа" і сур'ёзнай дыскусіі. Галоўнае, каб тая дыскусія не вельмі зацягнулася і яе тэма, як гэта ў нас часта бывае, не страціла сваю актуальнасць. Тады дыскусія можа абярнуцца звычайнай дэмагогіяй...

Юрый Хадыка даволі сціпла, амаль у бальшавіцкім стылі, ацаніўшы прафесійныя палітычныя навыкі сваіх калег і сябе самога — "гарвардов" (чытай: акадэмій) "не кончали", — задае між тым адразу даволі высокі ўзровень той дыскусіі. Прынамсі, бліскуча фармулюе яе звышзадачу — перасцерагчы калег ад тых прычын, якія могуць "расколоть и ослабить оппозицию режиму". У якасці прыкладу Ю. Хадыка прыводзіць абставіны, што склаліся вакол А. Чубайса.

На іх, бадай што, варта запыніцца падрабязней. "Рыжий, богатый, умный, самоуверенный" А. Чубайс — не проста адзін з буйных расійскіх палітыкаў посткамуністычнай эпохі. Не пашкодзіла б многім з нашых апазіцыйных лідэраў усвядоміць (бо ўлады тое даўно зрабілі!), што А. Чубайс — гэта сімвал, сімвал прынцыпова новага светапогляду, цалкам супярэчнага савецкаму. Усе "рэфарматары" і "дэмакраты" да Чубайса былі ўсё тыя ж, непатапляльныя "наменклатуршчыкі", якія толькі трохі паружавелі ці пабялелі, але — "свае". А. Чубайс жа — не "свой". У яго іншыя карані. Гэты надзвычай працаздольны палітычны баец — палітык выразна заходняй школы з мёртваю хваткаю "бульдога". І калі ён у нешта "ўчарэпіўся", то расшчаміць тыя сківіцы можна толькі ў адным выпадку...

Але, на нашу думку, ягоная сённяшняя палітычная суперЖывучасць — не толькі заслуга заходняй "вывучкі". Гэты палітык — выключна ўдалы гібрыд "заходніка" з "саўком". Бо толькі на звышнеспрыяльнай савецкай глебе мог з'явіцца такі надзіва ўстойлівы да ўсялякіх "катаклізмаў" палітычны тэрмінатар. "Рыжы" і разумны А. Чубайс, лагодна і хітра (!) усміхаючыся, ішоў і ідзе да сваёй мэты няўхільна, крок за крокам. Часам ён адступае, як, напрыклад, сёння, нешта страчвае, выяўляючы зусім пэўныя чалавечыя слабасці і хібы. Але ў выніку — працягвае шлях наперад. Зараз ён займае адну з ключавых пасад у расійскай палітычнай іерархіі і, маючы пэўны ўплыў на прэзідэнта Расіі, рэальна ўплывае на палітычнае надвор'е ў гэтай краіне, нават не зважаючы на тое, што ад Б. Ельцына яго раз за разам "адціраюць".

Адразу адзначым, што не трэба ўплыў А. Чубайса на прэзідэнта Расіі перабольшваць. "Барыс І" у лепшых традыцыях чынгізідаў, рурыкавічаў і раманавых вядзе свой уласны рэй. Проста на сённяшні дзень ягоныя палітычныя інтарэсы гранічна блізкія з інтарэсамі нашага знакамітага земляка. Ну як яшчэ магчыма захаваць на плыву расійскі бюджэт і эканоміку, як без рэгулярных фінансавых ін'екцый з Захаду?! А "рыжы" першы віцэ-прэм'ер і для многіх "буржуяў" — таксама сімвал. Не разумеючы непрадказальную Расію ні "умом", ні сэрцам, Захад "разумее" і можа прадказаць А. Чубайса — блізкага па ментальнасці чалавека.

Але і "заходнасць" А. Чубайса не трэба перабольшваць, як гэта робяць нашы беларускія "афіцыйныя" аналітыкі і палітыкі. Ён зусім не "марыянетка" і не "лёкай" багатых буржуяў, а фігура на палітычным небасхіле даволі самакаштоўная. Так, А. Чубайс мае цесныя стасункі з заходнімі фінансавымі і палітычнымі інстытутамі, што дазваляе пакуль што забяспечваць бесперабойнасць іхніх крэдытаў. Але наіўна лічыць, што гэты палітык ездзіць на Захад для даклада "гаспадарам" і што там даюць крэдыты выключна "пад Чубайса". Ён мае заўсёды ў кішэні свае "казыры".

Многія з тых "казыроў" не зусім навідавоку. Яны — доўгатэрміновыя". Напрыклад, надзвычай цікавы сёння завязаўся "гордзіеў вузел" стасункаў Захаду, Расіі і Кітая. Яго сёння разблытаць зусім не проста — нават маючы вялікія грошы. Механічнае прасоўванне НАТА на Усход — гэта хутчэй спроба той вузел "рассячы", а не разблытаць, — з-за стратэгічнага недахопу часу. У варунках імклівага росту новай супердзяржавы Кітая моцна ўзрастае роля Расіі (а з ёю Беларусі і Украіны) — як "буфернай" ці "транзітнай" зоны паміж Захадам і ўсё больш набіраючым моцы Далёкім Усходам. Сённяшняе прасоўванне НАТА зусім не мае канчатковай мэтай мяжу Беларусі і Польшчы і нават не мяжу Беларусі і Расіі. Гэта хутчэй Урал...

Такія палітыкі, як А. Чубайс, працуюць з далёкаперспектыўнымі катэгорыямі, якія моцна ўплываюць і на лёс Беларусі, хочам мы таго ці не, падабаецца нам гэты палітык ці не. "Нам" — гэта і нашай апазіцыі, і нашым уладам. Непатапляльнасць нашага рыжага земляка — не толькі вынік ягоных бліскучых прыродных здольнасцяў, але і фатальна прадвызначаны курс Расіі на пошук саюза з Захадам перад тварам няўхільнай усходняй экспансіі, у якой проста няма іншага кірунку, як спачатку на поўнач і потым на захад. Таму і вытрымлівае, і будзе надалей вытрымліваць на сваёй спіне не зусім трывалы і паздаравелы расійскі Балівар дзвюх такіх розных і супярэчлівых асоб, як самалюбівы Б. Ельцын і "умный и самоуверенный" А. Чубайс.

Вядома, не трэба ашуквацца і ў істотным прагрэсіўным значэнні апошняга ў дачыненні да Беларусі. А. Чубайс выяўляў і будзе выяўляць волю пэўных колаў расійскай імперскай палітычнай эліты, прынамсі, той яе часткі, што імкліва вырасла і ўзбагацілася за постсавецкі час. Інтарэсы сваёй былой радзімы для яго хутчэй адна з разменных манет у складаных палітычных гульнях. У тым і бяда наша, што заўсёды мусім выбіраць з двух ліхаў — большага і меншага. Але ліха заўсёды застаецца ліхам, хоць і меншым...

І ўсё ж аб'ектыўна гэты адносна малады, усмешлівы рыжы чалавек (а яшчэ Пётр І, дарэчы, забараняў рыжым сведчыць на судзе) з'яўляецца сёння ў пэўнай ступені саюзнікам і нашай апазіцыі, і... нашых улад. Апошні выраз — не даніна парадоксам. Як гэта ні дзіўна, але пазіцыя А. Чубайса значна болей, чым пазіцыя "чырвона-карычневых", спрыяе аб'ектыўна ўмацаванню ўлады беларускага прэзідэнта, яе стабілізацыі. Бо пры вельмі хуткай інтэграцыі для сённяшніх непрымірымых ворагаў А. Чубайса наш кіраўнік становіцца крайне небяспечным праціўнікам. У А. Чубайса, як мы ўжо адзначалі, крыху іншыя планы, больш маштабныя. Безумоўна, умацаванне ўлады А. Лукашэнкі не ўваходзіць у задачы А. Чубайса. На авансцэну выходзяць аб'ектыўныя фактары...

Не сакрэт, што палітычныя кулінары як Усходу, так і Захаду даўно ўжо не займаюцца прыгатаваннем "дыетычнай кашкі", а спецыялізуюцца на "чортавай юшцы" — вострай і гарачай. І ў многім ад нас саміх залежыць — ці трапім мы ў тую юшку абскубаным куранём, ці зможам займець урэшце "крылы" і выратаваць свой "чуб" падчас бясконцай бойкі гіганцкіх "паноў". Задача гэтая архіскладаная, але не невырашальная. Менавіта дзесьці тут, як гэта ні падаецца сёння абсурдным, і палягаюць элементы агульных інтарэсаў непрымірымых сёння апазіцыі і ўлады, канфлікт якіх вельмі ўжо нагадвае вядомую "тузаніну" за фрэзуру неіснуючай ужо па сутнасці галавы...

Ясна толькі адно, што захаванне і ўмацаванне Беларусі, як дзяржавы, зноў жа аб'ектыўна ў інтарэсах і ўладаў, і апазіцыі. Гэта хутчэй аксіёма. Без Беларусі і адны і другія адразу могуць ператварыцца ў палітычныя здані...

Аўтар далёкі ад думкі заклікаць нашу шаноўную апазіцыю і прафесара Ю. Хадыку тэрмінова запісвацца на прыём да А. Лукашэнкі. Рэч нават не ў тым, што "ўсё роўна ашукае". Ашукваюць, як вядома, тых, хто гэтага моцна прагне. Зразумела, што на сённяшні дзень "сцежкі" іх вельмі разышліся, а месцамі і Рубікон пяройдзены, бо ёсць уласна беларускія, лакальнага характару працэсы, якія "бруяць" па сваіх уласных законах. І пакуль яны не "перабруяць", С. Шарэцкі, С. Багданкевіч, В. Новікаў, ды і сам мудры Ю. Хадыка не сядуць за адзін стол з прэзідэнтам. А вось калі "выпадзе асадак" і раней цьмянае стане відавочным, вось тады, што зусім не выключана, моцныя і самазадаволеныя сёння ўлады будуць ліхаманкава шукаць кантакты з апазіцыяй, спяшаючыся наладзіць з ёю стасункі. Безумоўна, з той апазіцыяй, якая не страціць свой з цяжкасцю набыты імідж перад Захадам, а, значыць, і сувязі з ім. А вось каб захаваць тыя свае пазіцыі, неабходна, даруйце за банальнасць, захаваць хаця б фармальнае адзінства і згоду ў сваіх шэрагах. Бо, падкрэслім, фармальна апазіцыя сфарміравалася і існуе. І гэта не так ужо складана, пра што піша і Ю. Хадыка, — захаваць тое адзінства. Хай на пэўным палітычным этапе, хай з тактычных меркаванняў. Ды ўрэшце — з якіх заўгодна! Было б жаданне, а найперш разуменне, што паасобку кожны з сённяшніх палітычных "каралёў" і "фярзёў", як ліберальных, так і камуністычных, хутка ператвараецца ў "пешку". Бо не сакрэт, што пагроза гэтаму адзінству не толькі ва ўласных (па вялікім рахунку — недарэчных і наіўных) амбіцыях лідэраў апазіцыі, але і ў татальным расхістванні яго з боку як афіцыйных, так і прыхаваных (траянскіх коней) апалагетаў сённяшняй улады...

Зразумела толькі адно, што, дарэчы, чырвонаю ніццю прахдзіць і праз артыкул шаноўнага Юрыя Віктаравіча, — легітымная частка Вярхоўнага Савета павінна выжыць і ацалець любым коштам, пры любых палітычных варунках і абставінах, нават калі, не дай Бог, прыйдзецца перайсці на нелегальнае становішча. Па ўсім відаць, метадам пэўнай селекцыі ў шэрагах апазіцыі ўрэшце сфармаваўся касцяк людзей, здольных на цвярозы аналіз, якія і не даюць выплёсквацца ніякаму экстрэмізму. "Шаблі" пакуль што трэба трымаць у похвах, бо "танкі" баяцца іншае зброі. Вакол таго "касцяка" і павінна фарміравацца дзеяздольная палітычная структура, якая зможа пры патрэбе не толькі "змагацца" з уладамі, але і весці з імі перамовы. Прычым, неабавязкова толькі **па "капітуляцыі"**... Усё гэта ў сукупнасці і дазволіць (цытуем Ю. Хадыку) "улічваць масу фактараў і пралічваць як мага больш аддаленыя наступствы кожнага кроку". Якраз гэтага сёння моцна бракуе і многім палітыкам і "уважаемым аналитикам", што ніяк не пазбавяцца ад двухколернай гамы светаўспрымання. А, як казалі даўней нашы продкі, самы цымус — дзесь пасярэдзіне, г. зн. у паўтонах. Няўменне, ці нежаданне зважаць на "паўтоны" — цяжкая палітычная хвароба, але не "дальтанізм", а хутчэй "амнезія", бо тое ўсё ўжо было з намі і не раз...

## ШЛЯГЕР

### Жураўлі на Палессе ляцяць

**Музыка Ігара Лучанка, словы Алеся Ставера.**

***Каб любіць Беларусь нашу мілую,***
***Трэба ў розных краях пабываць.***
***Разумею цяпер, чаму з выраю***
***Жураўлі на Палессе ляцяць.***

***Што ім тыя пагоды паўднёвыя,***
***Што ім зелень платанаў і айв,***
***Калі клічуць іх далі сасновыя***
***У азерны рабінавы край.***

***Сакавітыя пожні мурожныя***
***Не заменіш нічым і нідзе,***
***І зямлю, дзе сцяжыначка кожная***
***У прыветлівы двор прывядзе.***

***Каб любіць Беларусь нашу мілую,***
***Трэба ў розных краях пабываць.***
***Разумею цяпер, чаму з выраю***
***Жураўлі на Палессе ляцяць,***
***Жураўлі ляцяць...***

# ВЯСНА-98: ЧАКАННІ І ІЛЮЗІІ

«Звязда»

На працягу апошніх трох гадоў надыход вясны прыносіў у палітычнае жыццё Беларусі прыкметнае ажыўленне. Варта нагадаць хаця б перадрэферэндумныя страсці ў сакавіку-красавіку 1995 года, або дзве інтэгацыйныя кампаніі (па стварэнню спачатку беларуска-расійскага Супольніцтва, а потым Саюза), якія прыпалі якраз на леташнюю і пазалеташнюю вясну. Ці прадоўжыць гэту тэндэнцыю вясна ўзору 1998 года?

Бурных падзей сёлета не прадбачыцца. І правая, і левая апазіцыя перажывае глыбокі крызіс. Часы, калі Беларускі народны фронт быў здольны выВесці на вуліцы пад сваімі сцягамі паўсотні тысяч прыхільнікаў, падобна, засталіся ў мінулым. Гэтак жа мінулі лепшыя часы і для камуністаў. Трэшчына ў камуністычным руху, якая ўтварылася паўтара года таму, напярэдадні лістападаўскага рэферэндуму 1996 года, не толькі захавалася, але і паглыбілася. Сярод камуністычных лідэраў у цяперашняй Беларусі няма асобы, якая б здольная была адчуваць левыя прарасійскія лозунгі лепш, чым гэта робіць прэзідэнт. А спробы аб'яднаць камуністычны электарат на апазіцыйнай у адносінах да прэзідэнта Лукашэнкі платформе і ўвогуле бесперспектыўныя — вопыт Васіля Новікава і Сяргея Калякіна яскрава пра гэта сведчыць.

У сёлетнім сакавіку нямала дат, якія тэарэтычна маглі б стаць падставай для масавых апазіцыйных выступленняў і пад чырвонымі, і пад бела-чырвонабелымі сцягамі. 13—15 сакавіка спаўняецца 100 гадоў з часу правядзення ў Мінску I з'езда РСДРП, які стаў калыскай КПСС. Яшчэ дзесяць гадоў таму спецыяльна да гэтай даты адной з вуліц у цэнтры беларускай сталіцы было прысвоена імя Пятра Румянцава — уладальніка зялёнага драўлянага дома на беразе Свіслачы, дзе нелегальна сабраліся стваральнікі РСДРП. Сёлета стагоддзе камуністычнага з'езда будуць адзначаць толькі камуністы. Робіцца спроба сабраць прадстаўнікоў больш як тузіна кампартый, што ўтварыліся на абломках колішняй КПСС. Аднак да адзінства постсавецкім камуністам гэтак жа далёка, як і іх колішнім папярэднікам.

15 сакавіка — чацвёртая гадавіна Канстытуцыі 1994 года. Гэты дзень дагэтуль пазначаны ў календары чырвоным колерам, хоць краіна ўжо больш як год жыве паводле Канстытуцыі ўзору 1996 года. Галоўны абаронца Канстытуцыі, створанай у 1994 годзе, — Вярхоўны Савет 13-га склікання. Ступень яго рэальнай сілы, верагодна, і будзе прадэманстравана 15 сакавіка.

Нарэшце, 25 сакавіка — 80-годдзе Беларускай Народнай Рэспублікі — першай спробы (у новай гісторыі) стварыць незалежную беларускую дзяржаву. Менавіта на гэты дзень у апошнія гады прыпадалі найбольш масавыя акцыі правай апазіцыі — Народнага фронту і ягоных саюзнікаў. Робіцца спробы паўтарыць нядаўні вопыт і цяпер. Аднак малаверагодна, што ў сённяшніх умовах гэта магчыма. Папершае, у грамадскай свядомасці ўжо няма таго адчування небяспекі страты дзяржаўнай незалежнасці, якое было год і два гады таму і якое клікала мінчан на вуліцу. Па-другое, сваю ролю адыгралі жорсткія меры ўладаў у адносінах да ўдзельнікаў масавых акцый пратэсту (асабліва гэта паўплывала на палітычную актыўнасць студэнтаў). Патрэцяе, адбіваецца і стомленасць, расчараванне, страта веры тых прыхільнікаў нацыянальна-дэмакратычнай ідэі, спадзяванні якіх за мінулыя дзесяць гадоў беларускія дэмакраты не спраўдзілі: да ўлады прыйсці не здолелі і страцілі нават тое нямногае, што само ўпала ім у рукі ў далёкім ужо 1991 годзе.

Гэту тэндэнцыю ўлавіў лідэр БНФ Зянон Пазняк, які нядаўна даслаў з эміграцыі кіраўніцтву Фронту ліст з папярэджаннем: «Яшчэ паўгода такога паралічу — і Беларускі народны фронт як сур'ёзная апазіцыйная сіла перастане існаваць і будзе выцеснена на перыферыю грамадскага жыцця».

Па ўсім відаць, што працэс гэты не толькі пачаўся, але ўжо ўступае ў сваю заключную стадыю. Прапанова Зянона Пазняка аб узмацненні ролі Рады БНР у эміграцыі — гэта, па сутнасці, прызнанне ўласнага паражэння.

Хутчэй за ўсё, нас чакае спакойная ў палітычным плане вясна: апазіцыя не прыняссе уладам прыкметных клопатаў. Куды больш значным выпрабаваннем стане вясна сельскагаспадарчая і звязаны з яе прыходам непазбежны рост інфляцыі, якую наўрад ці ўдасца ўтрымаць у межах 2 працэнтаў. Але да гэтых часовых цяжкасцяў беларускае насельніцтва за апошнія гады прывыкла.

**Валянцін ЖДАНКО.**



Частка з 16-ці пачак, якія пайшлі ў Вільню для беларускае школы. Зьлева: Сп. Дэн Лейд, які выстараўся і кіраваў запакоўкаю вопраткі і М. Прускі, — адказны за ўсё іншае, уключаючы перасылку.

# Мы, беларусы, з братняю Руссю...



"Чалавеку ўласціва пастаяннае чаканне шчасця", — пісаў у свой час В. Гюго.

Колькі доўжыцца жыццё кожнага з нас, столькі нам жадаюць шчасця — родныя, сябры, знаёмыя. Ды і ў кожнага асабістыя спадзеўкі на яго, кожнаму хочацца хаця б невялікі яго кавалачак. Але лёс, насуперак усяму, дазіруе яго кожнаму чалавеку пасвойму. Аднаму дасць болш, другому — менш, а хтосьці адмахае свае гады, так і не паспрабаваўшы таго шчасця хоць бы на зуб.

Як у чалавека, так і ў народаў, краін, дзяржаў — свае лёсы, свае надзеі на шчасце. У нас, беларусаў, гістарычна, з пакалення ў пакаленне шчасце так і застаецца надзеяй. Якую старонку нашага летапісання ні адгорнеш, дзе ні пачытаеш, — усюды адно і тое ж: у вірлівым тагачасным жыцці нашы продкі не змаглі злавіць птушку шчасця. Ды, відаць, і нам не суджана патрапіць у тую вясну, якая б змяніла нешта да лепшага, падаравала асалоду і паставіла кропку на нашым пакутным жыцці. Раз і назаўсёды. Каб адвечныя надзеі нашых прадзедаў, дзядоў і бацькоў хоць у нечым збыліся, каб калі не нам, дык хоць бы дзецям, унукам нашым крыху пашчасціла.

З якога боку ні падыходжу да гэтых адвечных пытанняў у пошуку адказаў, абавязкова лаўлю сябе на думцы, што ўся бяда была і застаецца ў нашым няўменні ці нежаданні абараняць сваю ўласную адметнасць. А лепш — годнасць. Доўжыцца гэта з сівой даўніны. Нам заўсёды не хапала грамадскай арганізаванасці, у выніку чаго мы заўсёды жылі з прадчуваннем трывогі за ўласнае існаванне. Трагічнасць лёсу нашага народа не толькі ў колькасці ахвяр на гістарычным шляху, а і ў забыцці сваёй культуры, мовы, гісторыі. Нацыянальны нігілізм, на няшчасце наша, дайшоў да таго, што сёння большасць з нас і сваю мову, і сваю нацыянальную культуру і гісторыю ведае на ўзроўні ведаў пра нас суседзяў.

І ўсё гэта — не вынік ляноты, а хутчэй — трагічных абставін, у якіх спадзеў быў толькі на ўнутранае самаразвіццё. На гэтым усё і трымалася доўгія-доўгія гады. А яшчэ — на той сацыяльна актыўнай часткі нашых людзей, якія глыбока разумелі вартаснасць і неабходнасць захавання ўсяго нацыянальнага.

Наша адраджэнне набыло ў пэўнай меры рэальныя рысы на кароткім, на жаль, этапе дэмакратызацыі грамадскага жыцця падчас так званай перабудовы. Падалося нават, нібы мы, беларусы, сапраўды памкнуліся даведацца пра сябе ўсё. Духоўнае зерне нацыянальнага адраджэння, што столькі часу безжыццёва ляжала ў здранцвенні, нарэшце ўзышло, нават зарунела, загаварыла роднай мовай, зразумелай на ўсіх абшарах краю, на ўсіх узроўнях — аж да самага высокага дзяржаўнага, дзе нават справаводства пачынала весціся на беларускай мове. З прыняццем Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь пачало фарміравацца адпаведнае прававое поле, заклікаемае вярнуць да жыцця ўсё нашае — і мову, і культуру, зацвердзіць сапраўды нацыянальны, сапраўды дзяржаўны лад жыцця, узаконіць станаўленне і рэгуляванне новых грамадскіх адносін, правоў, свабод і законных інтарэсаў грамадзян. Усё гэта адкрывала надзейныя перспектывы працэсам нацыянальнага адраджэння.

Прыгадаем. На пачатку 1992 года была прынята Пастанова Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб беларускай мове ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі Рэспублікі Беларусь". Названым дакументам прадугледжвалася забяспечыць прыярытэтныя ўмовы выданням перыёдыкі, літаратуры і іншай друкаванай прадукцыі на беларускай мове. Была прынята і адпаведная Дзяржаўная праграма развіцця беларускай мовы. Нацыянальна-культурная аснова была рэгулюючай у механізмах адукацыі, дзейнасці дзяржаўных і недзяржаўных адукацыйных установаў. Фарміраванне і ўмацаванне нацыянальнай свядомасці грамадзяніна нашай рэспублікі мелася ажыццяўляцца на аснове культурных традыцый і каштоўнасцей беларускага народа, а беларуская мова была вызначана асноўнай мовай выхавання і навучання ў дзіцячых дашкольных і навучальных установах. У гэтым сэнсе вартаснымі былі і прынятыя тады законы "Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны", "Аб культуры ў Рэспубліцы Беларусь" і некаторыя іншыя.

Але, як кажуць, нядоўга музыка іграла: рух гэты на Беларусі як раптоўна пачаўся, так і нечакана стаў траціць размах, змест і рэальнае аблічча.

У барацьбе за ўладу губляліся развакліВасць і здаровы сэнс, ажно да злоўжываннямў свабодай і дэмакратыяй, спекуляцый суверэнітэтам і нацыянальным адраджэннем. Важнейшая праблема павышэння нацыянальнай самасвядомасці, стварэння ўмоў для адраджэння і развіцця нацыянальнай культуры, традыцый і звычаяў стала пацяснянца штучна, а то і наўмысна створанымі праблемамі эканамічнага і палітычнага характару. На гэтай хвалі імкліва разрасталася спароджаная новымі ўладамі служба хлусні і падману, адурманьвання нашых людзей. Аглушальныя залпы афіцыйнай хлусні глушылі сапраўдную сутнасць і рэальнасць таго, што адбывалася. Усё гэта служыла ганебнай мэце — дарэшты пазбавіць нашых людзей пачуцця ўласнага гонару. І хутка стала зразумелым, што перабудовачны выбар стаў толькі першым крокам на цярністым шляху нашага нацыянальнага адраджэння. Далей на гэтым этапе гісторыі справа не пайшла. Чаму? Бо сам рух, чарнавая работа ў гэтым накірунку аказаліся цяжкімі, непасільнымі, а, хутчэй, і неспазнанымі большасцю грамадзян у сэнсе сваёй значнасці і вартаснасці ў агульнанацыянальным значэнні. Памкненні нешматлікіх рухаў і груповак супрацьстаяць разбуральнаму націску закончыліся, як сведчаць факты, амаль поўнай іх дыскрэдытацыяй, а лідэры, нацыянальныя патрыёты і абаронцы дэмакратыі былі ператвораны ў ворагаў Беларусі, у нацыянал-экстрэмістаў і нават нацыянал-фашыстаў.

Зацюканы, збіты з толку люд і на гэты раз выявіў сваю абыякавасць да таго, якім будзе яго далейшы лёс. Ён галасаваў за таго, на каго яму ўказвала мясцовая ўлада — такая ж збітая з толку і запалоханая уладай вышэйшага ўзроўню. Пакінутыя на выжыванне людзі змагліся ў рознага роду рэферэндумах, выбарах і перавыбарах, сталіся звычайнымі вінцікамі ў вялікіх палітычных гульнях. Аб пэўнай грамадзянскай пазіцыі большасці нашых людзей гаварыць не даводзілася і, на жаль, не даводзіцца і цяпер. Паслушэнства, падпарадкаванасць і пакорлівасць змушалі і змушаюць іх наступаць на граблі, якія яшчэ раз стукнулі іх па лобе. Апаматацца ад гэтага давялося толькі тады, калі аказаліся ў абдымках усё таго ж даўняга і "моцнага" ўсходняга суседа. Прытым, на ўмовах, што мову суседа вымушаны былі прыняць як яшчэ адну сваю — нібы сваёй замала. Што зробіш — такое "волевыяўленне" нашага народа. Ці то не хоча, ці то не ўмее ён жыць самастойна, пад сцягам сваёй дзяржаўнасці, свайго суверэнітэту, да якога столькі гадоў ішоў у пакутах.

Застаецца жадаць, каб шчасціла ў тых абдымках усім нам, ды толькі гэта занадта сумніўна і наогул — мала перспектыўна. Прайшоўшы год беларуска-расійскага саюзніцтва засведчыў толькі поўную яго недзеяздольнасць, сімвалічную ўмоўнасць аб'яднання — як, дарэчы, той жа самай Садружнасці Незалежных Дзяржаў ці так званага Саюза чатырох. Дзяржаўныя архівы поўняцца рознага роду пагадненнямі, дагаворамі 2—3—4 бакоў, а сапраўдных узаемакарысных і зацікаўленых адносін як не было, так і няма. У адной дзяржаве раздзяржаўлена і прыватызавана ледзь не ўсё, у другой — усялякім чынам стрымліваюцца гэтыя працэсы... Не канвертуюцца расійскія рублі з беларускімі разліковымі білетамі, неадпаведнасці ў заканадаўстве дзяржаў ляжаць папярок дарогі — не абысці іх і не аб'ехаць.

Усё гэта прывяло да таго, што пра так званыя цывілізаваныя адносіны дзяржаў і народаў-суседзяў застаецца толькі марыць.

Партнёрскія гаспадарчыя сувязі бакоў-вытворцаў спаўзлі да таварнага абмену, а само партнёрства — нетрывалае і спантаннае: то яно ёсць, то яго няма. Знешне — нібы не ворагі, але ўнутрана — ужо і не сябры. Нешта накшталт "так сабе". Адно чаўночны рынак мацуе пакуль расійска-беларускі саюз.

Асэнсоўваеш усё гэта, і самі па сабе згадваюцца словы А. Твардоўскага: "до чего же вы, ребята, удивительный народ". Толькі замест "вы" хочацца паставіць "мы". Дзіўны ў сэнсе бяспамяцтва. Колькі такіх урокаў падносіла жыццё, але яны так і не засвоены намі дасюль.

Дзіўны і ў сэнсе спасціжэння сябе, у сэнсе нацыянальнага гонару, нацыянальнай прыстойнасці, самавыражэння і самасцвярджэння. Урэшце — прызнання ў свеце. Нас жа гэтак мала ведаюць там — як дзяржаву, як народ. А калі і ведаюць, дык, часцей, па нечым негатыўным. А нам — хоць бы хны. Ну і няхай, нам і гэтак добра. Жывём кепска? Ну і што, хіба продкі лепш жылі?

Галоўнае — ёсць чым прыкрыцца для супакаення.

Нашы спасылкі скіраваны не ў лепшую будучыню, а ў сівую мінуўшчыну, ад чаго нам, здаецца, ніколі не адарвацца.

Збіраем па свеце недаезджаныя машыны, аўтобусы — і тым задаволеныя.

Каторы год займаемся грамадскім і дзяржаўным пераўладкаваннем, а да чаго прыбіліся — так і нельга вызначыць. Хіба што адно ўвачавідкі: бядотнасць на мяжы выжывання большасці нашых людзей, эканамічны і фінансавы крызіс, беспраўе і сацыяльная неабароненасць, падман і хлусня дзяржаўнага ўзроўню.

З такой атрыбутыкай у цывілізаваны свет дарогі няма. І як бы ні высільваліся цяперашнія нашы ўлады зрабіць туды прарыў, гэта не вельмі ім удаецца.

...Кожную раніцу прачынаюцца браткі-беларусы пад меладычныя акорды дзяржаўнага гімна камуністычнай эпохі, а затым дружна крочаць па шляху перамог, бітваў за волю і долю. Шлях гэты, на жаль, не даходзіць да скрыжаванняў сусветнай цывілізацыі. Еўрапейскія бальшакі — не для нас. Добра хоць, што ёсць прасёлкавыя дарогі ды ўзбочыны...

**Аркадзь КАРОТКІ**

*г. Мінск*

# Трыста гадоў назад беларускай мове ўжо выносілі прысуд...

## Няўжо тыя, ад каго сёння найперш залежыць яе лёс, прагнуць герастратавай славы?

Леанід ЛЫЧ,
доктар гістарычных навук

***Краіна ўступіла ў год, багаты на зусім неардынарныя круглыя даты. Я іх наўмысна не называю юбілеямі, бо не ў кожнай прысутнічае элемент радасці. Першай такой круглай датай будзе дзесяцігоддзе з дня чарнобыльскай катастрофы, другой — першая гадавіна першага ў гісторыі нашага народа рэферэндуму, трэцяй — трохсотгоддзе гвалтоўнай забароны прапольскімі ўладамі Рэчы Паспалітай ужываць беларускую мову ў службовым справаводстве, чацвёртай — чатырохсотгоддзе падпісання Берасцейскай царкоўнай уніі. Упэўнены, шмат пра іх будзе сказана ў сродках масавай інфармацыі, на пасяджэннях сесій Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, у час правядзення навуковых канферэнцый і сімпозіумаў, "круглых сталоў" і г.д. Тэма маёй гаворкі — трэцяя па ліку круглая дата, бо яна вельмі сугучна з тым, што сёння на самым высокім дзяржаўным узроўні збіраюцца зрабіць з беларускай мовай. Як тут не сказаць: гісторыя ўсё ж паўтараецца. Каб аблегчыць сённяшнім дэпутатам правільна выбраць сваю пазіцыю пры вырашэнні лёсу беларускай мовы, лічу надзвычай патрэбным пазнаёміць іх з тым, як тры стагоддзі назад садзілі яе за турэмныя краты.***

Не будзе перабольшаннем сказаць, што беларусы першымі з усіх суседніх з імі народаў, у тым ліку палякаў і рускіх, стварылі высокаразвітую літаратурную мову, што робіць вялікі гонар нашым прашчурам. У паасобных выпадках нават з некаторых суседніх краін прыходзілі ў нашу дзяржаву — Вялікае княства Літоўскае — службовыя дакументы на беларускай мове, што дае падставы сцвярджаць аб знаёмстве з ёю і па-за этнічнымі межамі пражывання беларусаў. Акрамя яе лексічнага багацця, унармаванасці высокае, трывалае месца за беларускай мовай у дзяржаўным, духоўным жыцці забяспечвалася прыняццем адпаведных нарматыўных актаў. Вось, да прыкладу, якія ахоўныя захады ў дачыненні да яе былі зроблены ў Літоўскім статуце 1566 года, г.зн. у час, калі Вялікае княства Літоўскае яшчэ існавала як асобная, не залежная ад суседніх краін дзяржава: "А писарь земский маеть по руску литерами и словы рускими все листы выписы и позвы писати, а не иншымъ языком и словы". Тут пад словамі "по руску" и "рускими" трэба разумець старабеларускую мову. Нагадаю, што ў той час этнонім "рускі" ў дачыненні да насельніцтва Маскоўскай дзяржавы яшчэ не выкарыстоўваўся. Яго называлі "маскалі", "маскавіты", "маскоўцы" і іншымі падобнымі тэрмінамі, утворанымі ад асновы "масква".

Змест прыведзенага вышэй артыкула аб старабеларускай мове даслоўна паўтарылі ў трэцім, апошнім Літоўскім статуце, прынятым у 1588 годзе. Гэта вельмі абачліва зрабілі нашы мудрыя дзяржаўныя дзеячы, канцлеры Вялікага княства Літоўскага Астафій Валовіч і Леў Сапега. Упэўнены, каб помнікі ім стаялі ў Мінску, нацыянальна свядомыя беларусы нават у праліўныя дажджы, лютыя маразы насілі б кветкі да іх п'едэсталаў.

Неабходнасць замацавання дзяржаўнага статуса старабеларускай мовы ў новым Статуце дыктавалася тымі карэннымі пераменамі, што пад той час адбыліся ў гісторыі нашай краіны. Яна тады ўжо не ўяўляла сабой адну, асобную дзяржаву. Вялікае княства Літоўскае і Польская Карона пасля падпісання ў 1569 годзе Люблінскай уніі ўтварылі аб'яднаную сумесную дзяржаву — Рэч Паспалітую. Фармальна, юрыдычна гэта была федэрацыя, відаць, дзякуючы рахманасці, памяркоўнасці беларусаў — іх ужо праз дзесяць—дваццаць гадоў палякі пачалі абуваць у лапці.

Можа, каго-небудзь гэта і здзівіць, але найбольшы ўціск палякі рабілі на родную мову беларусаў. Трэба думаць, што польскія дзяржаўныя дзеячы былі неблагія палітыкі, ведалі, што, каб дасягнуць поўнага падпарадкавання чужога народа, неабавязкова ўжываць нейкія фізічныя захады, катаваць. Дастаткова забраць у яго родную мову і прымусіць гаварыць на той, на якой размаўляе пануючая ў дзяржаве нацыя, і ад былога этнасу застанецца толькі адна біялагічная маса. Дзеля паралізацыі беларускай мовы, адрыву ад яе законных носьбітаў польскія асімілятары ішлі на любыя хітрыкі: складуць дакумент нібыта на беларускай мове, а ў ім ажно палова тыпова польскіх слоў. Далей — болей. Па-беларуску сталі падаваць толькі назву дакумента і падпісваць яго так, як гэта сёння робяць многія рэдакцыі рэспубліканскіх, абласных і раённых газет з іх беларускамоўнымі назвамі і рубрыкамі. Як бачым, гэтаму "вынаходніцтву" вельмі шмат гадоў. Каб спыніць такія здзекі з беларускай мовы, не дапусціць яе выцяснення з грамадскага ўжытку — найперш са службовага справаводства, — давялося яшчэ раз падкрэсліць яе сацыяльную ролю спецыяльным артыкулам Літоўскага статута 1588 года.

Магчыма, такога нарматыўнага акта і дастаткова было б для нармальнага функцыяніравання і развіцця беларускай мовы ў варунках у поўным сэнсе слова раўнапраўнай федэратыўнай дзяржавы, якой практычна яшчэ ніколі не сустракалася ў гісторыі. Заўсёды якая-небудзь з яе частак імкнулася дамінаваць, падпарадкоўваючы палітычна, эканамічна, духоўна другую. У Рэчы Паспалітай такую ролю ўдалося ўзяць на сябе палякам. Таму прысвечаны мове артыкул Літоўскага статута 1588 года толькі трохі прыпыніў наступ на яе з боку польскіх чыноўнікаў, да якіх з цягам часу далучыліся многія прадстаўнікі інтэлігенцыі, каталіцкага духавенства суседняй нам заходняй краіны.

Цёмныя, навальнічныя хмары над беларускай мовай працягвалі згушчацца. Разагнаць іх паспрабавалі дэпутаты Літоўскага, Валынскага і Брацлаўскага ваяводстваў. У 1632 годзе яны накіравалі ў Варшаўскі сойм ліст наступнага зместу: "У адпаведнасці з усталяваным звычаем і як гэта здаўна патрабуеіцца законам, усе акты прывілей, граматы і мандаты, якія датычаць ваяводстваў Літоўскага, Валынскага і Брацлаўскага, павінны складацца ў канцылярыі Я.К.Л. (Яго каралеўскай ласкі. — **Л.Л.**) і выдавацца ёю на рускай (г.зн. тагачаснай старабеларускай. — **Л.Л.**) мове. Акт, атрыманы кім-небудзь з канцылярыі на іншай мове, будзе поўнасцю несапраўдным.

З гэтай мэтай у каралеўскай канцылярыі павінен быць сталы прысяжны пісар шляхетнага паходжання, які, знаходзячыся ў поўным падпарадкаванні каралеўскай управы, забяспечваў бы справаводства на рускай (г.зн. старабеларускай. — **Л.Л.**) мове. Калі ж на працягу якога-небудзь часу пры двары Я.К.Л. не акажацца рускага пісара, тады, па неабходнасці, можна будзе выдаваць акты на польскай мове".

Высокі сойм пагадзіўся са зместам гэтага ліста і, можа, не ў апошнюю чаргу дзякуючы яго канцоўцы, якая адкрыла для польскай мовы ўсё ж рэальны шанс пралезці ў службовае справаводства Вялікага княства Літоўскага. Тут згаданыя вышэй дэпутаты дапусцілі вельмі сур'ёзную памылку ў моўным пытанні. Яны не разумелі таго, што, калі хочаш захаваць родную мову — а ў дэпутатаў, несумненна, такое жаданне было, — нельга ў самыя адказныя сферы дзяржаўнага і грамадскага жыцця дапускаць мову чужую, асабліва калі ў яе моцныя тылы ў асобе саміх дзяржаўных органаў. Жыццё так і пайшло, што і сапраўды пры двары Яго каралеўскай ласкі, як знарок, вельмі часта не аказвалася пісара, які валодаў бы літаратурнай старабеларускай мовай, таму ўсе дакументы складаліся па-польску. З канцылярыі ж каралеўскага двара бралі прыклад пісары ніжэйшага чыну, і як вынік — польская мова ўсё больш і больш умацоўвала свае пазіцыі на этнічнай тэрыторыі беларусаў, размываючы гэтым самым грунт іх самабытнага жыцця.

Аднак зацікаўленых у хутчэйшай асіміляцыі беларусаў дзяржаўных дзеячаў Польшчы зусім не задавальнялі маштабы і тэмпы ўкаранення польскай мовы ў нашым краі. Яны бачылі, што з не ў меру талерантнымі беларусамі можна абыходзіцца і больш крута: стрываюць, змірацца з усім. І не памыліліся. 29 жніўня 1696 года Усеагульная канферэнцыя саслоўяў Рэчы Паспалітай прыняла пастанову, згодна з якой у службовым справаводстве Вялікага княства Літоўскага "ўсе рашэнні павінны складацца на польскай мове". Гэтым наносіўся скрыжальны ўдар па беларускай мове, бо калі мова не ўжываецца ў афіцыйным, дзяржаўным жыцці, дык зусім мала сэнсу навучаць на ёй маладыя пакаленні ў школах, гімназіях, універсітэтах, выкарыстоўваць яе ў навуковай, публіцыстычнай, мастацкай літаратуры. Неафіцыйная, недзяржаўная мова рана ці позна ўсё роўна сыходзіць у нябыт. Ніякая этнічна самасвядомая інтэлігенцыя, ніякая адданая народным традыцыям сям'я, як бы яны ні культывавалі родную мову ў сваім асяроддзі, не выратуюць яе, калі яна не з'ўляецца адзінай дзяржаўнай у краіне. У той сітуацыі тонкія польскія палітыкі змаглі адшукаць адзіна правільны варыянт знішчэння беларускай мовы. Барані Божа, каб ён паўтарыўся сёння!

Беларускі народ выратавала ад немінучай моўнай смерці толькі тое, што яго асноўную тады масу складалі сяляне, якія доўгі час заставаліся ў баку ад польскай культурна-моўнай асіміляцыі, жылі паводле бацькоўскіх традыцый. Але сям-там і веска ўжо станавілася аб'ектам гвалтоўнай ці ўмела замаскіраванай паланізацыі. Шкада, што зараз наша вёска не вызначаецца трывалай беларускасцю, не выратоўвае нацыю ад асіміляцыі.

Афіцыйная забарона ўладамі Рэчы Паспалітай ужываць беларускую мову ў службовым справаводстве — гэта самы яскравы, непрыкрыты факт паланізацыі беларусаў, які ніхто і ніколі не зможа адмаўляць.

Ад часу прыняцця той дурной памяці жніўеньскай (1696 г.) пастановы Усеагульнай канферэнцыі саслоўяў Рэчы Паспалітай у беларускай мовы, калі не лічыць кароткага перыяду беларусізацыі 20-х гадоў XX ст., практычна зусім не было бясхмарных, светлых дзён. Проста дзіву даешся, адкуль у яе бяруцца носьбіты, прыхільнікі? За гэты час ад нашай мовы, на добры лад, павінна была б застацца толькі адна парахня. А тут, на табе, на ёй і па сённяшні дзень пішуць неблагія раманы, складаюць вершы, а апошнім часам нават з'явіліся падручнікі для вышэйшай школы, прапаноўваецца ўвесці яе ў сферу навукі. І ўсё ж становішча роднага слова беларусаў вельмі трывожнае, яно дажывае свае апошнія гады, а для многіх ужо памерла.

Цяпер далейшы лёс беларускай мовы будзе залежаць ад волі дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Не дасведчаны ва ўсіх тонкасцях і складанасцях моўнай праблемы, збіты з панталыку намаганнямі сродкаў масавай інфармацыі і паасобных палітыкаў, дашчэнту асіміляваны беларускі народ выказаўся ў значнай сваёй колькасці ў час майскага рэферэндуму за роўнасць беларускай і рускай моў. Што ж, народ не вольны ад памылак, як і яго правадыры...

Час, што мінуў пасля рэферэндуму, вельмі аслабіў пазіцыі беларускай мовы ва ўсіх сферах дзяржаўнага і грамадскага жыцця, у сродках масавай інфармацыі і асабліва ў адукацыі, што не можа не насцярожваць нававыбраных дэпутатаў — людзей з багатым жыццёвым вопытам, глыбокімі тэарэтычнымі ведамі. Таму пры абмеркаванні на сесіі пытання аб мове рэкамендую вам, шаноўныя, вельмі сур'ёзна задумацца, чаму ва ўсіх незалежных краінах Еўропы функцыі адзінай дзяржаўнай мовы выконвае толькі мова асноўнай, карэннай нацыі. Не паўторым жа той ганебнай, герастратавай акцыі, якую роўна 300 гадоў назад учынілі над беларускай мовай на Усеагульнай канферэнцыі саслоўяў Рэчы Паспалітай! Не хочацца верыць, што Беларусь у сям'і цывілізаваных дзяржаў Еўропы будзе выглядаць белай варонай — краінай без сваёй мовы...

## Так сказаў Вячэслаў Сіўчык,

### адказны сэкратар управы БНФ:

— Відавочна, што зьнешняя палітыка нашай краіны будуецца на сувязях з краінамі, дзе назіраюцца цяжкасьці з правамі чалавека, узроўнем жыцьця насельніцтва і г. д. Тут прынцыповымі зьяўляюцца два моманты. Па-першае, Лукашэнку не прызнаюць у цывілізаваным сьвеце, таму ён вымушаны абмяжоўвацца сувязямі з краінамі тыпу Ірана. Па-другое, Лукашэнка дзейнічае як дробны расейскі дыплямат. Ён сустракаецца з прадстаўнікамі тых краін, у якіх Расія мае пэўныя інтарэсы, але адкрыта садзіцца за стол перамоваў не жадае, бо ўсё-ж такі ў яе ёсьць ужо пэўны імідж. У выніку такой зьнешняй палітыкі народу дэманструецца шоў ў кантэксьце наступнага прарыву, як гэта было з Югаславіяй. Тавараабарот паміж Югаславіяй і Беларусьсю састаўляе ўсяго $10 млн. (здаецца, нават некаторыя прыватныя фірмы маюць больш унушальныя паказчыкі), але-ж улады гавораць аб яўных дасягненьнях у сфэры эканамічнага супрацоўніцтва. Зразумела, што такіяж глябальныя словы будуць гучаць і пасьля візытаў у Сырыю, Іран ці іншую "кубу" — абы туды толькі паклікалі спадара Лукашэнку. Самае жахлівае ў кантэксьце такой агалцелай прарасейскай зьнешняй палітыкі — гэта перанос уражаньняў, якія робіць Лукашэнка, супрацоўнічаючы з дыктатарскімі рэжымамі, на ўвесь беларускі народ.

Міхась ТЫЧЫНА
"БЕЛАРУСЬ"

# І ШЛЯХ, І МЭТА, І ІСЦІНА

З філасофскага сшытка пісьменніка



*Мы ўсе знаходзімся ў вельмі хісткім, няпэўным становішчы, нагадваючы чалавека, які адной нагой стаіць у лодцы, а другой — на беразе. Самае небяспечнае, што наша штодзённае жыццё пакуль што не дае надзеі на хуткае знаходжанне духоўнага апірышча. Уражанне такое, што ўсё адразу — людзі, рэчы, словы — як бы страціла свае рэальныя абрысы і пачынае нагадваць міраж. З усяго таго, што мы яшчэ нядаўна мелі (альбо нам здавалася, што мелі), нязменным засталося хіба адно адчуванне хуткаплыннасці часу, рака якога шпарка мкне ўдалячынь.*

*У такой сітуацыі вельмі лёгка разгубіцца, паддацца адчаю, махнуць рукой на ўсе маральныя законы і прынцыпы і жыць адным імгненнем, не зважаючы ні на што і ні на каго. Любое пытанне, самае надзённае і векавечнае, філасофскае, сёння праблематычнае. Мы страцілі былую, рэальную ці ўяўную (не будзем гэта ўдакладняць), пэўнасць.*

*Душы нашы неспакойныя, мы разгубленыя... Самы час расчыніць акно на вуліцу, азірнуцца навокал і спытаць, як гэта некалі зрабіў лірычны герой Барыса Пастарнака: "Скажыце, мілыя, якое тысячагоддзе на двары?".*

*Сапраўды, цяпер, на мяжы тысячагоддзяў, маюць значэнне не дні і тыдні, не месяцы і гады і нават не дзесяцігоддзі, хоць гэта дні, месяцы, гады нашага ўласнага жыцця, адрэзка часу, даравнага нам лёсам. Але ж набліжэнне эпахальнага рубяжа, якім бы ні было сумнiўным заняткам вылічванне на пальцах гадоў, круглых датаў, абуджае думку. Міжволі хочацца вырвацца са звыклай штодзённасці і ўбачыць сябе на фоне Вялікага Часу, хочацца мысліць універсальна, глабальнымі паняццямі. Прынамсі, добра было б сцяміць, дзе мы: дзевяты вал гісторыі знаходзіцца за нашай спінаю ці, можа, абагнаў нас, і мы паныла плядземся ўслед за падзеямі? Альбо, магчыма, мы на самым грэбені гісторыі, асядлалі лёс і не заўважаем гэтага? На карысць апошняй версіі, дарэчы, нямала аргументаў: усё, што мы сёння звязваем тут і ў гэты момант, атрымае развязку ў блізкай ці далёкай будучыні, выбіраючы шлях сабе, выбіраем яго іншым, за іх.*

## Душа не старэе...

Ведаць бы дакладна, дзе мы апынуліся! У "канцы гісторыі", калі верыць песімістам? Ці на яе "пачатку", калі схіляцца да пункта гледжання аптымістаў? Аднак у любым выпадку "псіхалогія канца" ці "псіхалогія пачатку" моцна ўплывае на нашы настрої і думкі, на ўвесь лад нашае душы.

Зразумела пакуль што адно: мы на самым зломе эпох.

Так, гэта адчуванне ўласцівае ўсім пакаленням: усё, што адбывалася на Зямлі да нас, было дзеля нас, у выніку і прыходзім у свет мы, наша пакаленне. І ўсё ж не кожнаму пакаленню выпадае жыць у часы, калі цывілізацыя робіць круты паварот з мінулага ў будучыню, абазначаючы якасна іншы этап існавання. Здаецца, мы павінны дзякаваць лёсу за тое, што ён зрабіў нас удзельнікамі лёсатворных падзей.

У перыяды жыцця, калі ўсё самаруйнуецца і ахоплівае адчай, душа міжволі цягнецца да таго, што непадуладна часу і яго разбуральнаму ўздзеянню. У той міг, калі ўсё навокал змяняецца, распадаецца, раптам становіцца відавочным, што **самі мы застаемся самімі сабою, такімі, якімі і былі заўсёды**. Вядома, змяніўся ўзрост, а з узростам прыйшлі іншыя пачуванні і адносіны да свету. Несумненна і тое, што змены ў наваколлі паскорылі нашы рэакцыі на падзеі, наша духоўнае пасталенне. Аднак пры ўсім тым мы з нашым унутраным светам засталіся адзіным цэлым, бо душа не старэе з гадамі, застаецца вечна юнай, якой была і ў гады, калі мы былі малыя, а дрэвы — вялікія.

Усё, што будзе, ужо было; усё, што здарыцца, ужо здаралася.

Будучыня існуе ў нашых уяўленнях пра яе. Існуе пакуль што ў выглядзе мары, ідэалу, жадання. Якія мы ёсць сёння, такое і наша заўтра; якімі вачыма глядзім на свет, такім яго і бачым; і калі наш позірк чысты і ясны, то і нашы памкненні чыстыя і ясныя...

Здаецца, мы пачалі не з таго канца, захапіўшыся ломкай, перабудовай навакольнага асяроддзя, тады, калі пачынаць трэба было, як гэта ні трывіяльна, з сябе, з свайго духоўнага самаўдасканальвання. Вось катэгарычны імператыў нашага часу! На жаль, большасцю ён быў успрыняты як чарговы надзённы лозунг, як чыста фармальны акт, бо да іншага ўспрымання ўсяго, што сыходзіла "зверху", мы і не былі прывучаны.

## З цемры — да святла!

Варта пачынаць з сябе... Сувязь гэтай нашай "непачатасці" з крызісам дзяржаўнага ладу, агульнай душэўнай неўсталяванасцю, адчуваннем сябе на гістарычным скразняку, існаваннем у няўтульным "калідоры" паміж Усходам і Захадам настолькі відавочная, што, бадай, не вымагае асаблівага асэнсавання.

Мы павінны прыняць гэтыя рэаліі як належнае: **ёсць тое, што ёсць**.

Цяпер важна іншае: што рабіць далей? Важна тое, як чалавек перааадолее сваю залежнасць ад "запалітызаванай" рэчаіснасці, уласную заангажаванасць, як супрацьўляецца амаль татальнаму націску шматлікіх ідэалагем — ад былых сацыялістычных да новых рынанчых. Сітуацыя ўскладняецца яшчэ і тым, што "ідэалогія" існуе ў скрытай і адкрытай форме не толькі ў нашым жыцці, але і ў самой мове, і ўплывае на сучасніка — непрыкметна, але моцна.

Людзі часцей за ўсё досыць бяспамятныя, аднак мова памятае ўсё. Яна нясе ў сабе сляды рэліктавай свядомасці нашых продкаў, якія спавядалі паганства, і адначасова ўтрымлівае ў зародкавым стане падзеі магчымай будучыні.

З "уладай слова", якая нярэдка нагадвае самую сапраўдную тыранію над нашымі думкамі, здольная справіцца толькі свабодная, творчая асоба. А з'явіцца гэтая асоба можа ва ўмовах франтальнага пераасэнсавання існуючай іерархіі маральных, эстэтычных, культурных каштоўнасцяў, свядомага крытычнага пераглядзу ўсіх сваіх без выключэння стасункаў з цывілізацыяй як спосаба самаарганізацыі грамадства.

Духоўная асоба нараджаецца тады, калі прымае ісціну: ёсць толькі адзін сапраўдны рух — рух з цемры да святла, з хаосу да космасу. А гэта, несумненна, вымагае найвялікшай духоўнай актыўнасці ад кожнага з нас.

Калі дух драмле, то ўсякая дзейнасць пазбаўляецца сэнсу, непазбежна ведучы да негатыўных наступстваў.

Усе магчымыя пытанні, якія паўстаюць перад намі і якія мы самі сабе задаём, зводзяцца, па сутнасці, да аднаго: быць ці не быць? Гамлет, прынц дацкі, свядома выбраў шлях, які прывёў яго да пагібелі. Але загінуўшы як фізічная істота, ён перамог сілы ліха маральна — як істота духоўная. І ў нашай сітуацыі альтэрнатывы няма. Бясспрэчна — быць! Быць Асобе, Нацыі, Чалавецтву, Жыццю на Зямлі! Гэткі выбар наканаваны ўсёй нашай гісторыяй, якую немагчыма ўявіць па-за цывілізаваным светам, па-за кантэкстам хрысціянскай культуры.

Жыццё за апошнія амаль дзве тысячы гадоў неаднаразова перагонвала чалавецтва, пакаленне за пакаленнем, у неабвержнасці боскага наканавання, у няўхільнасці маральнага пакарання за адступленне ад хрысціянскіх запаветаў. А наша дваццатае стагоддзе было асабліва шчодрым на гістарычныя прэцэдэнты, якія выразна даводзяць праваду маральнага закона: "жыць не ў хлусні", "жыць па праўдзе".

Наўрад ці варта спадзявацца на лёгкую, як у казках, перамогу дабра над ліхам нават у канчатковай перспектыве. Найперш таму, што ліха існуе не дзесьці па-за нашай істотай, а ў кожным з нас, у кожным з жывых людзей ад самага нараджэння. Культура — памяць чалавецтва пра перажытае і зразуметае — дапамагае ставіць ліха "на месца", увесь час аднаўляць хісткую раўнавагу сіл дабра і ліха ў глабальным маштабе. Культура робіць гэтае аднаўленне настойліва, паслядоўна, паступова нарошчваючы колькасць "гумусу" ў глебе цывілізацыі, ствараючы мэтанакіравана "кісларод духоўнасці", без якога мы проста задыхнуліся б, як у беспаветраным вакууме. Культура за часы свайго існавання выпрацавала мноства спосабаў змагання з "непазбежным ліхам". Усякі ідэалізм і максімалізм у гэтым адвечным змаганні безнадзейны. Больш таго, вельмі шкодны. Таму што ён патрабуе ад жывога чалавека немагчымага. Праведнікаў, герояў і ерэтыкоў сярод нас не так і багата, каб патрабаваць з нас "па гамбургскім рахунку". Ці не больш адпавядае сучаснаму гістарычнаму моманту пачуццё здаровага сэнсу, цвярозае ўсведамленне сваёй "экзістэнцыяльнай сітуацыі"?

## Дзе мы?

Пытанне "хто мы?" непарыўна звязана з пытаннем "дзе мы?". Відавочна, што ў выніку шматлікіх зігзагаў нашай нядаўняй гісторыі, працяглых вандровак па прасёлках і блытаных сцежках мы апынуліся на "задворках Еўропы". Многія духоўныя і культурныя працэсы ў нас незавершаныя: маральна і псіхалагічна мы знаходзімся калі не ў канцы XIX, то, прынамсі, на пачатку XX стагоддзя. Але ж сучаснае чалавецтва жыве ўжо вялікай перспектывай уступлення ў трэцяе тысячагоддзе хрысціянскай эры! У цывілізаваным свеце з кожным годам мацнеюць грамадскія рухі і тэндэнцыі да планетарнага мыслення, без аваладвання якім свет можа спасцігнуць жахлівая экалагічная катастрофа. Вядома, і ў так званай еўрапейскай цывілізацыі дастаткова звычайных праблем, якія вымагаюць увагі і неадкладнага вырашэння: яшчэ жывое пакаленне, якое памятае жахі другой сусветнай вайны, яшчэ моцная патрэба ў псіхалагічным пераадоленні шматлікіх "комплексаў", звязаных з трагічным мінулым.

І ўсё ж цывілізаваны свет, хоць марудна і цяжка, але рухаецца-такі ў напрамку да ўсталявання большай свабоды ў адносінах чалавека да сябе як да разумнай істоты, да ўласнай гісторыі, да сваёй "чалавечай сітуацыі". Мы, як і на пачатку гэтага стагоддзя, вымушаны спяшацца "наўздагон". Славутая праблема паскоранасці культурнага руху стаіць перад намі на парадку дня як першачарговая задача.

Аднак, каб рухацца наперад, ды яшчэ "паскорана", "наўздагон", неабходна вялікая ўнутраная энергія. Ці ёсць запасы такой энергіі ў змучанай шматлікімі выпрабаваннямі беларускай нацыі? Шырока вядомае ўслаўленне яе фізічнай і духоўнай вынослівасці, маральнай трываласці Фёдарам Дастаеўскім — так нечакана адгукнулася ў пісьменніку яго беларускае паходжанне. Нацыянальная літаратурная класіка таксама не шкадавала высокіх слоў, каб апець жыццёвую сілу беларуса, яго здольнасць пераадольваць усемагчымыя прыгоды і нягоды.

Але адна справа змаганне "без надзеі на поспех", да якога заклікалі французскія экзістэнцыялісты А. Камю і Ж.П. Сартр, і нешта зусім іншае — змаганне "без усякай надзеі", якое вядуць па волі лёсу некалькі стагоддзяў беларусы за сваё нацыянальнае выжыванне. Тут пытанне аб наяўных унутраных рэсурсах нацыі ніколі не лішняе. Толькі такіх "крутых" з'яў, як Курапаты, Хатынь і Чарнобыль, на працягу ўсяго аднаго стагоддзя дастаткова, каб надламаць, фізічна і маральна, і больш удачлівую нацыю. Беларусы пакуль што трываюць, бо звыклі трываць, чакаць, спадзявацца невядома на каго і на што. Але часам ствараецца ўражанне, што іх душэўныя сілы на мяжы, што яны блізкія да нервовага спусташэння і псіхалагічнага зрыву.

Падобныя эсхаталагічныя настроі мацнеюць напрыканцы тысячагоддзя, калі свядомасць поўніцца ўсякага роду прароцтвамі, трывогай, страхам. Аднак жа канец адной касмічнай эры непазбежна азначае пачатак новай, за рубіконам двухтысячнага года адкрываецца зіхоткая прастора будучыні.

Чалавецтва як бы сабралася ў адно цэлае перад рашучым скачком цераз бяздонне.

Беларусы, хоць, магчыма, і не ў такой ступені, як іх еўрапейскія суседзі, але таксама маральна рыхтуюцца да прарыву ў вышэйшыя слаі культурнай стратасферы. Накоплены гісторыяй духоўны вопыт дае магчымасць з надзеяй глядзець у заўтра: у беларусаў вялікі нявыкарыстаны творчы патэнцыял.

## Беларуская ідэя — "нацыянальныя інтарэсы"

Самай незапатрабаванай у нас з'яўляецца **беларуская ідэя**.

Калі перавесці гэтае паэтычнаметафарычнае па сваім сэнсе паняцце, якое не вельмі прыхільна ўспрымаецца многімі далёкімі ад палітыкі людзьмі, на мову рэальнай выгады, то яно літаральна адпавядае катэгорыі **"нацыянальных інтарэсаў"**. Там, дзе заходзіць гаворка пра "нацыянальныя інтарэсы", адразу ўзнікае прывід "беларускай ідэі". Менавіта ў нашай нацыянальнай, гістарычнай, духоўнай своеасаблівасці, у непадабенстве нашага шляху з мінулага ў будучыню і тоіцца невычэрпная крыніца творчай энергіі, патрэбнай для духоўнага ўдасканалення і культурнага развіцця.

Свой творчы патэнцыял беларусы шматкроць дэманстравалі і ў працы, і ў баі: тут нават самыя вялікія скептыкі наўрад ці маюць што сказаць супраць. Чаго ж тады нам не стае, каб заняць "свой пасад між народамі", "змясціцца ў сям'і нялічанай славян"?

Не стае найперш палітычнай волі.

Мы затрымаліся на гістарычным скрыжаванні, топчамся на месцы, выбіраючы, як казачны віцязь, шлях: старэйшае пакаленне грэюць успаміны пра "застойна-застольныя" часы, маладзейшае — захапляе рамантычнае ўяўленне пра "залаты век" Вялікага княства Літоўскага. Адпаведна, адны цягнуцца душою на Усход, а другія — на Захад, але трывалага і натуральнага спалучэння традыцый і наватарства пакуль што не атрымліваецца.

Тым часам відавочна, што патрэбна "адцэнтроўка", устанаўленне пункта апоры, на якім скрыжоўваюцца ўсе інтарэсы. Апораю для духу, які пазнае сябе, з'яўляецца, несумненна, выпакутаваны маральны вопыт.

## Урок на будучыню

У сённяшнім поліцэнтрычным, неадназначным, шматстайным свеце мы, беларусы, цікавыя менавіта гэтым — **сваёй** нацыянальнай непаўторнасцю, **сваім** гістарычным вопытам. Гэткага няма нават у блізкіх суседзяў, бо ў іх свой лёс і свой шлях.

Не заглыбляючыся ў аддаленае мінулае, зазначым, што цяжка адшукаць аналагі такой "пагалоўшчыны", якой пазначаны рэпрэсіі 30-х гадоў на Беларусі. Ад нацыянальнай інтэлігенцыі — галоўнага носьбіта "беларускай ідэі" — пасля 1930 і 1937 гадоў засталіся ў жывых толькі адзінкі практычна дэмаралізаваных таленавітых літаратараў і навукоўцаў.

Такога этнацыду і генацыду, як у вайну з фашызмам, таксама не зведала ніводная іншая нацыя — тут трагедыя беларусаў цалкам супастаўляльная з трагедыяй яўрэяў. Нездарма Алесь Адамовіч пісаў, што беларускі народ перажыў атамную вайну задоўга да таго, як была адкрыта і выпрабавана ядзерная зброя.

Сапраўдныя маштабы чарнобыльскай катастрофы, акрамя вядомых наступстваў, выявіліся яшчэ і ў тым, што ў сэрцах беларусаў было пасеяна атручанае радыяцыяй зерне безнадзейнасці і, бадай што, роспачы.

Вось чаму наўрад ці можна назваць кашчуннымі развагі некаторых публіцыстаў пра Беларусь як прэ своеасаблівае "эксперыментальнае поле", дзе апрабоўваюцца розныя варыянты выжывання! Сам факт падобных "эксперыментаў" на жывых людзях, зразумела, абражае нацыянальную і чалавечую годнасць. Аднак калі ўжо здарылася тое, што здарылася, то не павінна здавацца амаральным імкненне прывесці ўсё да аднаго назоўніка, здабыць агульны корань, атрымаць павучальны ўрок. Беларусы і раней шчодра дзяліліся з суседзямі, з вялікім светам сваімі талентамі, плёнам сваёй працы, дык чаму ім тады не падзяліцца набытым вопытам, які сёння, як і ўсякае ноу-хау, дорага каштуе?!

Што можа быць больш натуральным і пажаданым, чым патрэба ў крызіснай сітуацыі зазірнуць у сябе, у глыбіні ўласнай гісторыі, у лабірынты нацыянальнай псіхалогіі, у таямніцы пантэістычнай філасофіі, якую здаўна спавядаюць "жыхары лясоў і балот"? Такая засяроджанасць на сабе і на ўласных праблемах не павінна выглядаць нацыянальным эгаізмам, а тым больш дзівацтвам у час, калі нацыянальныя праблемы для большасці цывілізаваных народаў у асноўным вырашаны. Найперш таму, што сапраўдная мэта, звышзадача духоўнага працэсу самаідэнтыфікацыі акрэсліваецца ў пошуку выхаду з ізаляцыі — маральнай, духоўнай, псіхалагічнай.

Калі свет удзячны этнасам, якія зніклі з твару зямлі (этрусскам, шумерам, ацтэкам, гунам, полаўцам, прусам, ятвягам), за "навуку" ("на доўгую і вечную памяць"), то чаму яму не быць удзячным беларусам за унікальны досвед? Бо дзе яшчэ ў свеце можна адшукаць такое спалучэнне неспалучальнага, калі на шалях вагаў адначасова апынаюцца мужнасць і здрадлівасць, максімалізм і памяркоўнасць, розум і цемрашальства? А ў выніку сацыяльнага "эксперымента" мы маем пакаленне, якое занядбала запаветы продкаў і абыякавае да лёсу нашчадкаў, якое спынілася на ўзроўні дахрысціянскай "практычнай маралі" і дбае пра дабрабыт сям'і і роду, застаючыся глухім да духоўных патрэбаў народа, якое не думае пра сродкі дасягнення мэты і магчымыя наступствы цяперашняй маральнай неразборлівасці.

Цывілізаваны свет у аблічч беларусаў сутыкнуўся з парадоксам, калі кожны з іх цікавы і арыгінальны сам па сабе, а ўсе разам як адно цэлае ўяўляюць нешта аморфнае і невыразнае. Недурныя ў прынцыпе, досыць адукаваныя і культурныя людзі, сабраўшыся на агульнанароднае веча, на Вялікі Сход (калі прыгадаць купалаўскую сімволіку нашаніўскага перыяду), паводзяць сябе па меншай меры дзіўна — адмаўляюцца ад таго, што агульнапрызнана непераходзячай духоўнай каштоўнасцю, усур'ёз верац у прымхі, здані, прывіды нядаўніх часоў (ва ўсё той жа, напрыклад, "прывід камунізму"), сумняваюцца ў перавагах таго, што шмат пакаленняў спавядалі дзяды-прадзеды (прыватнай уласнасці, індывідуальнай ініцыятывы, свабоды, дэмакратыі, адукацыі, культуры). Як тут не прыгадаць словы паэтэсы Ларысы Геніюш, звернутыя да Максіма Танка, па-жаночы эмацыянальныя, поўныя экспрэсіі: "Мне здаецца, што ў нашай літаратуры (і шырэй — культуры! — **М.Т.**) побач з іншым трэба развіваць, падкрэсліваць шляхотныя рысы беларускасці як: працавітасць, дабрата, саліднасць, мужнасць і г.д. — тварыць добрых і чэсных людзей. Без беларусаў не Беларусь, без добрых людзей не свет!".

Менавіта цяпер, калі мы засталіся сам-насам са сваімі праблемамі і не ведаем як быць, што рабіць, які шлях абраць, мы ў большай ступені сталі сабою, чым у часы існавання велізарнай унітарнай дзяржавы-монстра. Найперш таму, што ад нас нарэшце залежыць **маральны выбар**, хоць мы яшчэ не звыкліся з гэтым дзіўным адчуваннем унутранай свабоды і на цалю не наблізіліся да разумення сваёй **адказнасці** перад жывымі і мёртвымі, нашчадкамі і продкамі.

Так, вяртанне да сваёй уласнай сутнасці, працэс нацыянальнай і духоўнай самаідэнтыфікацыі, неадназначны і супярэчлівы. Вандроўка ў мінулае, далёкае і блізкае, мае сэнс толькі ў тым выпадку, калі гісторыя ўзбагачае нас набытым вопытам папярэдніх пакаленняў, якія такім чынам дапамагаюць нам шукаць шлях у будучыню. Безумоўна, што некалі мы і самі будзем цікавыя наступнікам уласным вопытам, няхай сабе нават і негатыўным. **Неасэнсаванае** ж мінулае, наадварот, трымае нас пад сваёй уладай ("традыцыі мёртвых пакаленняў навісаюць над свядомасцю жывых"), прымушаючы адчуваць, усведамляць сваю далучанасць да ўсіх акцый таталітарнага рэжыму: такіх, якія ўспрымаюцца як гістарычныя падзеі (напрыклад, перамога над фашызмам), і такіх, якія ў вачах нашчадкаў пазначаны нацыянальнай ганьбай (масавыя рэпрэсіі, усталяванне сістэмы татальнага нагляду і кантролю, распаўсюджванне сваіх парадкаў на іншыя краіны свету, гвалтоўнае навязванне сваіх поглядаў на жыццё).

Глынуўшы паветра свабоды, спазнаўшы на каліва, што такое дэмакратыя, адчуўшы скураю ўсе прывабнасці "дзікага рынку", мы па сваёй унутранай сутнасці застаёмся ранейшымі савецкімі людзьмі з калектывісцкай псіхалогіяй (гэта, дарэчы, датычыцца, хоць, магчыма, і ў меншай ступені, і маладой генерацыі). Менавіта таму **мы баімся застацца сам-насам з нашымі рэальнымі, а не ўяўнымі праблемамі**, бо, здаецца, няма ў свеце нічога страшней, чым застацца на самоце, зазірнуць у сябе і пабачыць там цёмны вір пытанняў: хто я? дзе я? Асудзіўшы сваё ранейшае паднявольнае становішча, мы, аднак, не ведаем, што рабіць з дараванай нам свабодай. Многія сумуюць па мінулым, калі за іх думалі іншыя. Але што можа быць цяжэй за адчуванне ўпушчаных магчымасцяў, і што можа быць больш бяссэнсавым, чым пастаяннае знаходжанне ў стане "пошукаў страчанага часу"!

"Вечнасць, — разважае Васіль Быкаў, — як ні круці, цалкам складаецца з мімалётных момантаў, крута замешаных на вартай пагарды бруднай палітыцы, граху, пакутах і болю. Заўважана, што няма сучаснасці, ёсць толькі мінулае з будучыняй. На іх тоненькім стыку і размяшчаецца **ўяўная сучаснасць**, на якой мы — тыя, хто жыве сёння. Будучыню нікому не дадзена ўгадаць — ні яснабачцам, ні экстрасенсам... Затое несумненны капітал сучаснікаў — іх мінулае. Важна толькі яго ведаць. Здабываць з яго ўрокі. Не забываючы пры гэтым песімістычныя сентэнцыі папярэднікаў, улічваючы даўно вымаўленыя ісціны наконт таго, што было, тое і будзе, што вецер заўжды вяртаецца на кругі свае".

## Усё ўзаемазвязана...

Эпоха змен цікавая якраз тым, што **вызваліла патаемную сутнасць многіх з'яў мінулага, раскрыла сапраўдныя мэты людскіх учынкаў**. Толькі пры гэтым раскрываецца ўнутраны змест "уяўнай сучаснасці", і яна непрыкметна ператвараецца ў адзіна сапраўдную, фізічна адчувальную рэч, а мінулае, як і будучыня, пачынае бачыцца наборам розных версій, якія можна даказваць з большай ці меншай колькасцю аргументаў, дакументаў, фактаў. Усё-ткі мы перажываем менавіта гэты, непаўторны і адзіны ў сваім родзе, момант свайго зямнога існавання.

Цяпер і тут.

Па сутнасці, праблематычна не толькі тое, што будзе, калі будзе сапраўды, але і тое, што было: а ці на самай справе было? Так узнікае прынцыпова новы вобраз беларускай рэчаіснасці, дзе ўсё — мінулае, сучаснасць, будучыня — прысутнічае сінхронна, адначасова, як бы ў адной плоскасці. І тады няма істотнай розніцы паміж мікракосмасам і макракосмасам, бо яны звязаны паміж сабой, узаемна адлюстроўваючыся адно ў адным: чалавек і свет, нацыя і чалавецтва, прырода і культура. І справа тут не ва ўплыве модных усходніх вучэнняў, паводле якіх усё пераходзіць ва ўсё і лёгка можа пераўвасобіцца не толькі ў іншую жывую істоту, але і ў неадушаўлёны прадмет. Справа **ў новым светаадчуванні** сучасніка, які пачынае спасцігаць геніяльны сэнс даўно вядомага (са школы...) адкрыцця фізікаў і хімікаў, што **ў гэтым свеце нішто не знікае бясследна і ўсё звязана з усім:** я і мы, свае і чужыя, далёкія і блізкія, жывыя і мёртвыя. Мы апынуліся ва унікальным становішчы, калі адразу, у адзін міг і ў адным месцы, сышлося многае з таго, што звычайна існуе паасобку, на розных узроўнях. У аднолькавай сітуацыі сёння чалавек, які ў думках, магчыма, жыве ўжо ў XXI стагоддзі, і чалавек, які мысліць катэгорыямі, напрыклад, XIX стагоддзя. Не выключана, што сярод нас блукаюць неандэртальцы альбо пітэкантрапы — калі мець на ўвазе разумовае, маральнае развіццё. Неразуменне адно аднаго, непрыняцце іншадумства, нецярпімасць — гэта, бадай, самае жахлівае, што мы атрымалі ў спадчыну ад таталітарнага мінулага.

Трэба паважаць адно аднаго, нягледзячы на ідэйныя разыходжанні, палітычныя погляды, рэлігійныя сімпатыі: нам выпаў лёс жыць побач менавіта з гэтымі, а не іншымі людзьмі, яны маюць такое ж права на самавыяўленне, як і ўсе іншыя. Калі мы гэта зразумеем нарэшце, то, магчыма, у нас нешта і атрымаецца. Ужо адно тое, што мы знаходзімся, па вялікім рахунку, у аднолькавай чалавечай сітуацыі, павінна нас не раз'ядноўваць, а збліжаць, злучаць у нацыю, у сучаснае чалавецтва. Калі мы, зразумела, не дзікуны, не неандэртальцы-пітэкантрапы...

## ТОЕ — СЁЕ...

**Паводле няпэўных апошніх вестак, украінскія камуністы набралі больш-менш 25% месцаў у парлямэнцкіх выбарах у Вярхоўную Раду Украіны. Як выглядае на Ўкраіне больш дурняў чым мы спадзяваліся...**

*

**Нам паведамляюць, што гарадзкія ўлады Слоніма далі дазвол паставіць памятнік канцлеру Вялікага княства Літоўскага — Льву Сапегу. Чакаем на здымку манумента.**

*

**У Бабруйску ўлады забаранілі мітынг у чэсьць 80-х угодкаў БНР. Жыхары горада з гэтае нагоды вывесілі 20 бел-чырвона-белых сьцягоў, адзначаючы гэтым нацыянальнае сьвята 25-га Сакавіка.**

# Вамі ганарыцца беларуская Беларусь

Адчуванне такое, што цяперашняе беларускае кіраўніцтва, "вертыкаль" пранізана нецярплівасцю да ўсяго беларускага і напружвае ўсе свае сілы, каб знішчыць, зліквідаваць беларускую адметнасць ва ўсіх праявах жыцця. Вось памяркуйце: нацыянальную мову ўдушылі, нацыянальную сімволіку зганьбілі, нацыянальную школу зрабілі расійскай, лепшыя кнігі па нацыянальнай гісторыі прызнаюцца шкоднымі і забараняюцца, навейшыя творы вядомага ўсяму свету Народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава выкідваюцца з выдавецкага плана, большасць вуліц гарадоў і мястэчкаў носяць назвы расійцаў. Руская мова ў друку, радыё і тэлебачанні шырокім разлівам затапіла ўсю нацыянальную прастору Радзімы. Усе намаганні "вертыкалі", накіраваныя на далейшае замбіраванне свядомасці людзей: ніякія мы не беларусы, "мы — русские".

А мы хочам, каб такая ўлада шанавала і бараніла тых, хто любіць Беларусь, лічыць яе родным домам, а сябе — гаспадаром у тым доме. Вось каб гэтыя хлопцы на кожнай сцяне ці плоце напісалі "Наш дом — Расія" — іншы б лёс напаткаў іх.

Беларусь — наш дом, хоць зараз і гаспадараць у ім чужынцы. Вашы імёны і гарачая любоў да Святой Пакутніцы Беларусі натхняе вашых равеснікаў на самааддатнае служэнне Айчыне. Мы ганарымся вамі!

**В.СКАРАХОД,**
**пенсіянер.**

Мінск.

*Народная Воля*

# Аб пагрозе знішчэння беларускай мовы

## Зварот з'езда Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады да грамадзян Беларусі

Удзельнікі з'езда БСДГ выказваюць сур'ёзную заклапочанасць станам беларускамоўнасці — аднаго з галоўных фактараў жыцця беларускай нацыі, захавання і ўмацавання беларускай дзяржавы. Рэальнай стала пагроза канчатковай асіміляцыі беларусаў, знішчэння арэалу нашай культуры і мовы. Лідзіруе ў гэтых трагічных працэсах горад Мінск. Пацверджанне таму — хуткае скарачэнне ў ім беларускамоўных школ. Так, калі ў 1993—1994 навучальным годзе 58,6% першакласнікаў Мінска прыйшлі ў беларускамоўныя класы, дык у гэтым годзе — толькі 7,3%. У 10 і 11 класах на беларускай мове вучацца ўсяго 74 і 33 вучні адпаведна. І гэта ў двухмільённым горадзе, дзе большасць насельніцтва — беларусы.

Прычына таму — русіфікатарская палітыка Міністэрства адукацыі і ўрадавай адміністрацыі, абыякавасць у адносінах да нацыянальных праблем Беларусі. Трэба, каб кожны разумеў, што знікненне ў этнічных адносінах 12-мільённай беларускай супольнасці прынясе велізарную шкоду ўсяму чалавецтву. Звужэнне арэалу беларускай мовы ёсць пагроза знішчэння разнастайнасці сусветнай культурнай прасторы.

Ва ўмовах, якія склаліся, толькі наша згуртаванасць, пашырэнне тлумачальнай працы, рашучае выступленне ў абарону беларускай мовы здольны ўратаваць яе.

Карыстайцеся ж роднай беларускай мовай паўсюдна! Пераконвайце рабіць гэта ўсіх грамадзян нашай рэспублікі! Бо ўсе мы павінны ўнесці свой уклад ва ўмацаванне беларускай нацыі — асновы дзяржавы, падмурка дабрабыту нашчадкаў.

Ад кожнага з нас, ад нашай згуртаванасці, ад нашых учынкаў залежыць будучыня Беларусі.

*Ніл ГІЛЕВІЧ*

# Запісы розных часоў

*"ЛіМ"*

## МІЖ ЦАРКВОЙ І КАСЦЁЛАМ

Адзін з кіраўнікоў Саюза палякаў Беларусі публічна заявіў: "Касцёл быў, ёсць і будзе толькі польскім і ніколі беларускім не будзе!" Самаўпэўнена і катэгарычна — аж занадта! Хоць на транспарант занось! Лозунг дый толькі! Ну, а калі без шавіністычнай пыхі і фанабэрыі?..

Па-першае, і ў Беларусі дакастрычніцкай, і ў Заходняй Беларусі пад польскай акупацыяй былі касцёлы і беларускія з вельмі патрыятычнымі беларускімі ксяндзамі (Стэповіч, Станкевіч, Гадлеўскі і многія іншыя). Па-другое, ёсць беларускія касцёлы і сёння. Па-трэцяе, што да будучыні, то, як гэта кажуць, пажывём-пабачым. Я, напрыклад, не сумняваюся, што колькасць беларускіх касцёлаў будзе расці, — па меры росту нацыянальнай самасвядомасці беларускага грамадства.

Тым не менш, вось такая ваяўнічая заява зроблена, і трэба думаць, не адзін раз. І зроблена, падкрэсліваю, чалавекам не выпадковым, не нейкім незнаёмым з вуліцы. Чалавекам, які ўвасабляе польскі грамадскі рух на Беларусі і вызначае яго тэндэнцыі. Як жа загадаеце нам, беларусам, рэагаваць на гэта? Ніяк? Прапусціць міма вушэй? Дык з боку кіраўніцтва Беларусі менавіта такое "рэагаванне" і будзе; махне рукой — і толькі. Бо, на яго думку, якая розніца, хто нас, беларускіх ахламонаў, будзе асімілюваць — ці царква, ці касцёл? Нам і так і так добра — абы нас паганялі бізуном ці палкай.

Заяву актывіста Саюза палякаў я ўспомніў, калі глядзеў па тэлепраграме "Крок" перадачу пра будаўніцтва каталіцкага манастыра ў Беларусі. Нічога не маю супроць будаўніцтва кляштара: калі ёсць людзі, якія адчуваюць у ім патрэбу, значыць, ён павінен быць. Але натуральна ўзнікае пытанне: а на якой мове ён будзе працаваць? Ён будзе беларускі ці польскі? Пытанне гэта вельмі і вельмі сур'ёзнае. Мы абвясцілі грандыёзную праграму нацыянальнага адраджэння Беларусі — не толькі дзяржаўна-палітычнага, але і духоўна-культурнага. І нам зусім-зусім не ўсё роўна, ці будуць у гэту праграму ўпісвацца цэрквы і касцёлы, ці не будуць. Ці яны будуць супрацьстаяць нашаму нацыянальнаму адраджэнню? Аддадзім дзетак беларусаў-каталікоў польскаму касцёлу, які працуе на польскай мове, — і з іх там будуць выхоўваць палякаў, як гэта было ў Заходняй Беларусі. Там ім не скажуць, што яны — беларусы і што іх родная мова — беларуская. Там іх не заахвоцяць да вывучэння беларушчыны і да патрыятычна-беларускай чыннасці. Не, польскі касцёл нашых дзетак беларускасці не навучыць! Гэтаксама, як, з другога боку, не вучыць і не навучыць нашых дзяцей беларускасці руская праваслаўная царква, у тым ліку і нядзельныя школы, якія адчыняюцца і пачынаюць працаваць пры праваслаўных храмах.

Дык як жа быць, шаноўныя спадарыпанове? Будзем і далей глядзець на ўсё гэта скрозь пальцы? Скрозь пальцы па-халуйску зразуметага інтэрнацыяналізму? А на гэтак званы "беларускі нацыяналізм", г. зн. на любоў і пашану да беларускай мовы, на ідэю незалежнасці Беларусі, — будзем глядзець, вырачыўшы ад страху вочы?

*1993*

## "ВАС — НЯМА! РАЗУМЕЕЦЕ?"

Выпішу для шаноўных чытачоў адну цытату з газеты "Литературная Россия" (за 11. 2. 1994) — органа Саюза пісьменнікаў Расійскай Федэрацыі. Зраблю гэта для тых, хто самых разумных, самых інтэлектуальных расійскіх газет не чытае і, магчыма, думае, што ўсе памкненні ліквідаваць незалежнасць Беларусі ідуць ад расійскіх чыноўнікаў і генералаў, царкоўнікаў і бізнесменаў. Не, шаноўныя: армады гэтых пералічаных катэгорый расіян — толькі выканаўцы, толькі імкнуцца ажыццявіць тое, чым іх узбройваюць тэарэтыкі, мысляры, гісторыкі, філосафы, літаратары, мовазнаўцы, — адным словам інтэлектуалы, "властелины умов". Цытата, якую я зараз падам, — адна з тысяч ідэнтычных ці зусім падобных на гэтую. Аўтар гэтае — доктар эканамічных навук, пісьменнік Алег Платонаў. І так — чытаем (падаю ў арыгінале, каб не перакруціць сэнс):

"Создание "государств" (так у Платонава — у двукоссі) Украина и Белоруссия (так у Платонова — Белоруссия, хаця наша дзяржава на ўсіх мовах свету называецца Беларусь. — **Н. Г.**) носит искусственный и

# З В А Р О Т

## Управы ЗБС «Бацькаўшчына» да беларускіх суполак у Замежжы

У пэрыяд, які прайшоў пасьля Другога зьезду беларусаў сьвету, у адносінах да беларускай дыяспары з боку беларускай дзяржавы пачалі адбывацца істотныя зьмены. Іх накірунак вызначыўся ўжо пад час правядзеньня Зьезду. ЗБС "Бацькаўшчына" запрасіла на форум прадстаўнікоў усіх беларускіх суполак замежжа. Аднак, з боку дзяржаўных структураў былі прывечаны толькі некаторыя лаяльныя да ўладаў дэлегаты з блізкага замежжа, якія былі запрошаны на сустрэчу з прэзыдэнтам краіны. Такое размежаваньне прадаўжаецца і далей.

На пачатку бягучага году ў Менску адбыліся мерапрыемствы, арганізаваныя дзяржаўным Камітэтам па справах рэлігіі і нацыянальнасьцяў і Таварыствам "Радзіма" — нарада ў Камітэце і пасяджэньне Савету садзейнічаньня таварыству "Радзіма". На абодвух абмяркоўваліся пытаньні ўзаемадзеяньня з беларускаю дыяспараю. Такая актыўнасьць у справе падтрымкі беларускага замежжа сама па сабе можа выклікаць адабрэньне з боку ўсіх зацікаўленых у гэтай справе. Аднак, некаторыя аспекты абодвух мерапрыемстваў наводзяць на трывожныя думкі.

На абодвух пасяджэньнях вялася размова аб узаемадзеяньні зноў толькі з беларусамі блізкага замежжа. Але, і тут не з усімі. Як можна было зразумець з выступленьняў прадстаўнікоў дзяржаўных структураў стратэгічнай лініяй у працы з дыяспарай будзе дыфэрэнцыяваны падыход. Практычна, гэта азначае, што маці-краіна будзе дзяліць сваіх дзяцей на лепшых і горшых, адных падтрымліваць, а другіх — адлучаць. Такія адносіны могуць прывесьці да расколу сусьветнай беларускай супольнасьці, якою з такімі цяжкасьцямі ўдалося стварыць "Бацькаўшчыне" за восем гадоў дзейнасьці. Бязумоўна, разьяднаньне нацыі не будзе на карысьць і самой Беларусі.

Такое-ж неаднароднае стаўленьне праяўляецца з боку дзяржавы ў адносінах да грамадзкіх арганізацыяў, якія працуюць з дыяспараю. У краіне праводзіцца палітыка выцясненьня са сфэры работы з дыяспараю Згуртаваньня "Бацькаўшчына", як незалежнай грамадзкай арганізацыі. Робіцца спробы перацягваньня нашых рэгіянальных арганізацыяў у іншыя структуры, залежныя ад дзяржаўных уладаў. Асабліва гэта выявілася на пасяджэньні Савету садзейнічаньня таварыству "Радзіма", якое адбылося 4-6 лютага 1998 году. Да ўдзелу ў яго рабоце былі запрошаны толькі некаторыя прадстаўнікі беларускіх суполак з блізкага замежжа, у тым ліку і тыя, што прадстаўляюць сабою структуры ЗБС "Бацькаўшчына", аднак прадстаўнікі самога Згуртаваньня не былі запрошаны. Пытаньні, якія былі ўключаны ў абвестку дня Савету насілі больш шырокі характар, чым прадстаўніцтва на ім. Напрыклад, абмяркоўвалася пытаньне аб ініцыятыве скліканьня Зьезду беларусаў Расіі ў г. Уфе (Башкорстан), але ў сьпісе запрошаных былі прадстаўнікі толькі некаторых арганізацыяў з Расіі, якія ня мелі паўнамоцтваў прадстаўляць усіх расейскіх беларусаў. Незразумела, чаму разглядалася ініцыятыва, менавіта, Рэспубліканскага нацыянальнага культурнага цэнтру беларусаў Башкорстану, які пакуль што ёсьць адной з новастворных беларускіх арганізацыяў і не зьяўляецца ўплывовай сілаю ў гэтай справе.

ЗБС "Бацькаўшчына" ўжо некалькі гадоў вядзе падрыхтоўчую работу па згуртаваньню беларусаў Расіі разам з тымі арганізацыямі, якія ўжо даўно стала працуюць у гэтай краіне, аднак наша ініцыятыва не ўлічваецца, а работа пачынаецца з нулявога цыклю, што ня будзе спрыяць рэальнаму аб'яднаньню беларусаў.

У такой сытуацыі, што выяўляецца сёньня ў справе ўзаемадзеяньня нашай краіны з беларускаю дыяспараю, Управа ЗБС "Бацькаўшчына" выказвае заклапочанасьць негатыўнымі тэндэнцыямі, якія ініцыююцца дзяржаўнымі структурамі і падпарадкаванымі ім грамадзкімі арганізацыямі.

Мы зьвяртаемся да беларускіх суполак у замежжы з просьбою вызначыцца ў сваёй арыентацыі, праяўляць больш адказнасьці, абачлівасьці ў сваёй працы. Неабходна клапаціцца аб тым, каб ня быць выкарыстанымі ў справах, якія ня будуць на карысьць беларусам, а, надварот, будуць спрыяць нашаму разьяднаньню, пасеюць недавер і непаразуменьне паміж нашымі суродзічамі.

Зьвяртаем таксама ўвагу і на юрыдычныя аспекты справы, якія абавязваюць структурныя адзінкі любой арганізацыі лічыцца з пазыцыяй кіруючых органаў, з палажэньнямі Статута гэтай арганізацыі. Арганізацыйная цэласнасьць нашага руху зьяўляецца неабходнай умоваю пасьпяховай дзейнасьці Згуртаваньня, якое мы стварылі ўсе разам у 1990 годзе. Парушэньне гэтых асноваў можа прывесьці да расколу, да ліквідацыі незалежнасьці нашага руху і стварэньню альтэрнатыўных, падпарадкаваных дзяржаўным уладам структураў.

Мы засьцерагаем беларускую грамадзкасьць у замежжы ад самых негатыўных наступстваў такой палітыкі.

16 лютага 1998 году.

Управа ЗБС «Бацькаўшчына»



Малюнак А. ПАПОВА.

временный характер, так как — я уверен — не отвечает коренным духовным, историческим и экономическим интересам жителей этих территорий.

Говоря о русском народе, я, как это было принято до 17-го года, отношу к нему все его географические части, в том числе украинцев и белорусов. Еще в XIX веке ни у кого не возникали сомнения в принадлежности их к русской нации. Официальная статистика считала их русскими и подразделяла их на малороссов и белорусов по чисто географическому, а не национальному признаку. Подобно Сибири или Уралу, Украина и Белоруссия составляли единую географию русского народа, целостный братский организм. Некоторые языковые, этнографические различия Украины и Белоруссии объяснялись особенностями их исторического развития в условиях многовековой польско-литовской оккупации"

Вось так, шаноўныя чытачы! Вось так, мае мілыя браткі-беларусы! Ясна і проста, як двойчы два. Ніякіх украінскага і беларускага народаў няма. Значыць, не можа быць і нейкіх самастойных дзяржаў па імені Украіна і Беларусь. "Вас, беларусаў, няма! Разумееце? Вы — гэта не вы, не беларусы! Разумееце? Вы — сапсаваныя польскалітоўскім уплывам рускія. Таму ваша гульня ў суверэннасць — іменна гульня і толькі, і як усякая гульня — часовая".

Паўтараю: такіх выказванняў, такіх "тэарэтычных" высноў у расійскім літаратурным і грамадска-палітычным друку — хоць гаць гаці. Штодзённа і несупынна б'юць імі па мазгах недасведчаным грамадзянам Расіі, рускім і беларусам у Беларусі. Што можа быць у выніку такіх мазгавых апрацовак — прадбачыць няцяжка.

*1994*

## А ТРЭБА БЫЛО...

У адных заходніх краінах палітычных партый зусім мала, у другіх — многа, у трэціх — вельмі многа, але ўсе яны — самастойныя нацыянальныя арганізацыі і ў аснове сваіх праграм маюць абарону нацыянальных інтарэсаў. Абавязкова! А што такое была Камуністычная партыя Беларусі? А вось яна і не была — ні самастойнай, ні нацыянальнай. Яна была часткай КПСС і як палітычная сіла змагалася за ажыццяўленне праграмных мэт КПСС. Якія былі тыя мэты — агульнавядома. Возьмем толькі адзін аспект — нацыянальна-моўны. Яшчэ на ўсёй памяці нашай — франтальны ідэалагічны паход на рэшткі "нацыяналізму" (буржуазнага, канешне), апантанае змаганне за зліццё моў, культур і нацый, за стварэнне "новай гістарычнай супольнасці", імя якой — савецкі народ. Зрэшты, апошняе барацьбы ўжо не вымагала, пра яго ўжо гаварылася як пра факт, які адбыўся. Пазмагацца яшчэ заставалася толькі з нацыянальнымі мовамі — каб узмоцненым тэмпам давесці справу да іх канчатковай ліквідацыі, г. зн. да поўнай асіміляцыі ўсіх народаў СССР, да поўнага іх растварэння ў рускай моўнай стыхіі. Слепата крамлёўскіх тэарэтыкаў у гэтым пытанні дорага каштавала і партыі, і Саюзу ССР, і ўсяму сусветнаму камуністычнаму руху. "Ніхто не хацеў паміраць!" — сказана было не так сабе. Гэта ісціна чамусьці ніяк да іх не даходзіла. Праўда, у самы апошні час, пры Гарбачове (пад націскам інтэлігенцыі з рэспублік, асабліва пісьменнікаў) у Крамлі нібыта спахапіліся і пачалі нешта думаць, нават рабіць пэўныя заявы. Ды было ўжо позна. "Саюз непарушны" пачаў трашчэць па швах. Бальшавіцкая партыя была асуджана на недаўгавечнасць іменна таму, што ад самага пачатку была антынацыянальнай па сутнасці. У свядомасці яе кіраўнікоў, у іх палітыцы і філасофіі адсутнічала нацыянальная ідэя. Іх філасофія і мараль у плане нацыянальна-моўным не падымалася вышэй таго, што я сотні разоў чуў у чэргах, у транспарце, у тэлерэпартажах. "Какая разница, на каком языке балакать?! Была бы колбаса в руке!.." Вам — "какая разница", але ж не ўсе жывуць толькі тым, "была б колбаса в руке". Людзі жывуць яшчэ і тым, каб нешта было ў душы, у сэрцы, у памяці. Каб — "людзьмі звацца".

Камуністычная партыя Беларусі не працавала на кансалідацыю беларускай нацыі, хоць была ўпэўнена, што працуе і вельмі шмат. Яна працавала на памылковых, ілюзорных прынцыпах і таму — намарна. Не было разумення, якая тая галоўная ідэя, што павінна ляжаць у аснове дзейнасці, скіраванай на кансалідацыю. Так, як і сёння, мнogія, ад каго залежыць ідэйнае, духоўнамаральнае развіццё грамадства, не разумеюць элементарнага. Не разумеюць, што: мы — беларусы, мы — народ гэтай зямлі, яе лёс — гэта наш лёс, і ўсё залежыць ад нас. Ад таго, якімі будзем мы. Бяда і трагедыя КПБ была ў тым, што і на яе сцягу, як на сцягу КПСС, было напісана: "Камунізм змяце ўсе граніцы!" (Гэта пры тым, якая жалезная сцяна адгарожвала нас ад усяго свету). А трэба было, каб на яе сцягу народ чытаў: "Беларусь! Краіна родная! Жыві вечна! Бо толькі на тваіх вольных прасторах мы будзем шчаслівымі!.."

Здавалася б, нічога новага. У кожнай краіне на яе дзяржаўным сцягу напісана менавіта гэта (толькі назва дзяржавы іншая). Так — ва ўсім свеце. У любой незалежнай краіне народ сам клапоціцца пра сябе, пра свой лёс. Пара, нарэшце, і нам гэта зразумець і ўзяцца за вялікую стваральную працу з імем Беларусі на сцягу, на вуснах і ў сэрцы.

*1996*

## МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС "У ГОНАР РОДНАГА СЛОВА"

**На сумесным вечары менскага клуба "Спадчына" і Менскай рады Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны было абмеркавана пытаньне аб стварэньні мемарыяльнага комплексу "У гонар роднага слова".**

**Вызначана канцэптуальная накіраванасьць праекту, абазначана прыкладнае месца яго ўзьвядзеньня, разгледжаны першыя чатыры праекты.**

**Было вызначана, што нашай мэтай зьяўляецца:**

**— стварыць архітэктурна-кампазыцыйны манумэнтальны комплекс;**

**— паказаць праз пластычнае выяўленьне гэтага сымвалу фундамэнтальнасьць і няўмірučасьць беларускай мовы як Боскага дару, парад якім кожны з нас мае абавязак: захоўваць, аберагаць яе самабытнасьць, разьвіваць;**

**— раскрыць веліч і ахвярнасьць лепшых прадстаўнікоў нацыі, якія пасьлядоўна і самаахвярна адстойвалі гэтыя прынцыпы;**

**— паказаць веліч і багацьце роднай мовы і пісьменства.**

**Лейтматывам комплексу павінны служыць словы Францішка Багушэвіча: "Не пакідайце-ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмёрлі". Прыкладнае месца ўзьвядзеньня — Менск, пляцоўка каля Акадэмічнай бібліятэкі імя Якуба Коласа.**

**У мэтах ажыцьцяўленьня гэтай задумы ствараецца арганізацыйны камітэт, у які ўвойдуць прадстаўнікі ўсіх творчых саюзаў Беларусі, гуманітарных інстытутаў НАНБ, грамадзкіх арганізацыяў, спэцыялісты.**

**Адначасова аб'яўляецца адкрыты конкурс на пластычнае і тэкставае ўвасабленьне мемарыяльнага комплексу.**

**Праекты будуць выстаўлены на агляд у Доме літаратара (Менск, Фрунзе, 5) у час правядзеньня зьезду пісьменьнікаў Беларусі 23 красавіка бягучага году.**

**Пераможцы трох лепшых праектаў, а таксама пераможцы па падачы тэкставага матэрыялу будуць аб'яднаны ў агульны творчы калектыў для далейшай працы над праектам мемарыяльнага комплексу.**

**Свае прапановы накіроўвайце да 23 красавіка 1998 году на адрас:**
**220037, Менск, вул. Уральская, 16, кв. 9, Беламу Анатолю.**
**Тэль.: 235-66-08 (хатні)**

*Аляксей Саламонаў,*
старшыня Менскай гарадзкой рады ТБМ.
*Анатоль Белы,*
таршыня клябу "Спадчына".

## НАВІНЫ

**Больш як 500 беларусаў жадаюць атрымаць сымбалічнае грамадзянства БНР. Гэтую акцыю арганізаваў у Беларусі Беларускі Народны Фронт. Ліста жадаючых грамадзян БНР будзе перасланы Радзе БНР у экзылі.**

## Уладыка Філарэт у Менску "предупреждает".

**Ніжэй публікуем у скарочаньні "пасланьне" Ўладыкі Філарэта ў Менску да сваіх падуладных. Пісаніна гаворыць сама за сябе...**

**Отцам настоятелям приходов Минской епархии Белорусского Экзархата МосковскогоПатриархата**

Досточтимые отцы!

С пастырской озабоченностью предупреждаем, что в последнее время появились факты активной деятельности неканонических образований по созданию на территории Белорусского Экзархата приходов, не имеющих ничего общего с Белорусской Православной Церковью. По адресам приходов и отдельных прихожан рассылаются некие зарубежные издания с целью внести смуту в жизнь Святой Белорусской Православной Церкви. В связи с этим считаем необходимым сообщить вам следующее.

Сегодня за рубежом действуют две группировки, каждая из которых называет себя Белорусской Автокефальной Православной Церковью или сокращенно БАПЦ. Группировку, центр которой находится в Канаде, возглавляет «митрополит» Николай Мацукевич, другую, с центром в Нью-Йорке (США), — «митрополит» Изяслав Бруцкий.

Между названными группировками существуют распри по поводу имущества и каноничности каждой из них. Для обеих сторон характерны постоянные взаимные обвинения в нарушении правил Православной Церкви, в неканоничности епископских посвящений. Все это вызывает чувство горечи у простых верующих. Ныне в составе обеих БАПЦ не более полутора десятка общин в США, Канаде и Австралии.

Третья группировка — так называемая Белорусская Народная Православная Церковь с центром в США. Она тоже заявляет о своей автокефальности. Ее возглавляет «архиепископ» Юрий Рыжий. 27 июля сего года он «рукоположил во епископа» некого Петра Гущу и еще нескольких лиц — во «священников» которые разъезжают по Беларуси, дерзая совершать кощунственные «богослужения».

Между тем, ни одна Поместная Православная Церковь из пятнадцати существующих в мире не признает эти три группировки каноническими церквами.

Недавно в Минске начал протизаконно печататься и активно распространяться по Беларуси журнал нью-йоркской БАПЦ «Царкоўны пасланец». Его издатели на страницах журнала обещают, что к нему в недалеком будущем будут присоединены и «другие нужные издания». «Царкоўны пасланец» свидетельствует о следуюших целях БАПЦ:

организация на территории Беларуси незаконной автокефальной православной церкви
путем создания здесь приходов БАПЦ и активной пропаганды идей автокефалии;
прамое вмешательство в политическую жизнь Белорусского государства под видом «борьбы за независимость Беларуси».

В сентябре сего года Изяслав встретился в Киеве с лжепатриархом Филаретом Денисенко. Последний, как изаестно, на Архиерейском Соборе Русской Православной Церкви 1997 г. за учинение раскола в Церкви и нераскаянность в этом был анафемантствован.

Между «митрополитом» Изяславом и представителями «иерархии» так называемой Украинской Провaславной Церкви Киевского Патриархата (УПЦ КП) возглавляемой вышеупамянутым М. А. Денисенко, достигнуто соглашение, в частности, о том, что на территории Украины будет осуществляться обучение кандидатов ва священство для БАПЦ; одному из «иерархов» УПЦ КП поручено их рукополагать и наставлять в пресвитерской деятельности, поддерживать распространение изданий БАПЦ среди православных Беларуси...

Таким образом, на канонической территории Белорусского Экзархата появились силы, стремяшиеся внести нестроения и соблазны в жизнь Святой Православной Церкви. Информируя вас, досточтимые отцы, о вышеизложенном просим проявлять бдительность...

Достойно сожаления, что создатели и сто- ронники группировок, именующих себя «автокефальными церквами», обречены на отделение от Сьвятой Христовой Церкви. Воистину трагично положение тех наших соотечественников, которые состоят в безблагодатных псевдоцерковных груп- пировках. Находясь вне ограды Единой, Святой, Соборной и Апостольской Церкви, они лишают себя спасения в вечности...

**Паважаны Ўладыка Філарэт! Што Беларускія Праваслаўныя Аўтакефальныя Цэрквы маюць свае наўвязкі і непаразуменьні, дык гэта іх унутраная справа. А вось страшэсь іх «отделением» ад Сьвятой Хрыстовай Царквы вельмі непаважна. Бо-ж у Вас на гэта няма ні сілы ні магчымасьці... А што Вас агарнуў справядлівы страх за свае ўплывы, дык тут нічога дзіўнага няма, бо раней ці пазьней Беларуская Аўтакефалія ў Беларусь уселіцца і закрасуе...**

*

**Аляксандар Пупейка, ведамы беларускі бізнэсмэн, атрымаў палітычны азыль у Польшчы.**

*

**Нядаўна група беларускіх лідэраў і парлямэнтарыяў з апазыцыі наведала Лёндан. Яны прысутнічалі на сьвяткаваньні 25-га Сакавіка ў Англіі. Прымалі іх таксама ў брытанскім парлямэнце ды іншых высокіх дзяржаўных установах Англіі.**







СЬВ. † ПАМЯЦІ

## МІХАСЬ ТУЛЕЙКА

**8. IX. 1915 — 6. III. 1998**

6-га сакавіка сёлета памёр у гор. Томс-Рывэры ў штаце Нью-Джэрзі шматгадовы грамадзкі дзеяч і працаўнік на ніве Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы светлай памяці Міхась Тулейка.

Нарадзіўся нябожчык 8-га вербсьня 1915 г. ў Нясьвіжы. Пачатковую і сярэднюю асьвету атрымаў у родным горадзе. Па сканчэньні ў 1935 г. польскай настаўніцкай сэмінарыі быў узяты ў войска, вучыўся ў падафіцэрскай школе ў Слоніме. Пасьля ваисковае службы працаваў настаўнікам два гады: год у Нясьвіжы і год у Снове. Перад самым пачаткам нямецка-польскай вайны (якая пачалася 1 верасьня 1939 г.) быў змабілізаваны і месяц прабыў на фроньце ва Ўсходняй Прусіі. Адтуль ягоную вайсковую частку перакінулі пад Варшаву. У часе абароны Варшавы Міхась Тулейка быў цяжка ранены і ўзяты ў палон. Немцы абмянялі каля пяці тысячаў польскіх ваеннапалонных, якія паходзілі зь земляў, далучаных да Савецкага Саюзу, на гэткіх-жа палонных, што паходзілі з заходняй Польшчы і былі ў палоне ў Саветаў. У выніку гэтага абмену ў канцы 1939 году Тулейка апынуўся дома і два гады адпрацаваў настаўнікам у Нясьвіжы пры савецкай уладзе.

У часе нямецкай акупацыі Беларусі нябожчык працаваў спачатку дырэктарам пачатковай школы ў Нясьвіжы, а калі адчынілася настаўніцкая сэмінарыя (у якой налічвалася 500 вучняў), стаўся заступнікам дырэктара сэмінарыі, быў адказны за складаньне раскладу заняткаў і вялікую частку адміністрацыйнай работы. Эвакуаваўся зь Беларусі ў чэрвені 1944 году.

У Нямеччыне пасьля заканчэньня вайны вучыўся ў Рэгензбурзе, а пасьля ў Мюнхэне на агранамічным факультэце ўкраінскага інстытуту. У Мюнхэне Міхась Тулейка — заснавальнік Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня і сябра рэдкалегіі часапісу «Крывіцкі сьветач». Быў на апошнім сымэстры аграноміі згаданага інстытуту, калі настала магчымасьць эміграваць у Злучаныя Штаты. Пасяліўшыся ў Нью-Ёрку, Міхась Тулейка ажаніўся з Вольгай Стэльман і актыўна ўключыўся ў грамадзкую дзейнасьць. Іхная гасьцінная кватэра, а пасьля і свой дом, сталіся адным з пунктаў сяброўскіх сустрэчаў, і розных грамадзкіх мерапрыёмстваў. Міхась Тулейка — першы старшыня Згуртаваньня Беларускае Моладзі, старшыня парафіяльнае рады прыходу сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ у Нью-Ёрку. Ён браў удзел (разам зь Янкам Станкевічам, Міколам Гарошкам, Янкам Ніхаёнкам і інш.) у заснаваньні БАЗА; арганізоўваў беларускі скаўтынг у Амэрыцы; быў два разы старшынём БАЗА; кіраваў царкоўным хорам, а пасьля ў штаце Нью-Джэрзі, узначальваў пасьля сьмерці сьв. пам. Сяргея Гутырчыка беларуска-амэрыканскую вэтэранскую арганізацыю, браў удзел у культурнай працы БАЗА.

Паховіны сьв. пам. Міхася Тулейкі адбыліся 10-га сакавіка ў царкве Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ у Гайленд-Парку, прыхаджанінам якое быў нябожчык. Вялікая грамада сваякоў і супрацоўнікаў суправаджалі яго ў апошні зямны шлях. Адпяваньне ў царкве адслужыў а. Васіль Андрэюк. Хорам кіраваў сп. Лявон Стагановіч. Над магілай прамаўлялі сп. Антон Шукелайць, старшыня БАЗА і блізкі супрацоўнік нябожчыка. З вэтэранскім сьцягам над магілай на Беларускім могальніку ў Іст-Брансўіку стаяў сп. Сяргей Мурог. Бел-чырвона-белы сьцяг, якім была пакрыта труна, сп. Янка Азарка, старшыня сэктару Рады БНР, перадаў жонцы нябожчыка.

За памінальным сталом успамінамі пра памерлага падзяліліся спадары Янка Запруднік і Барыс Данілюк. Ува ўсіх прамовах адзначалася адданасьць сьв. пам. Міхася Тулейкі справе служэньня свайму беларускаму народу, сваім суродзічам, сваёй царкве. Усюды ў ягонай працы зь ім была ягоная верная спадарожніца жонка Оля, якой прамоўцы выказалі ўдзячнасьць і спачуваньне.

Вечная памяць, працавітаму сыну Беларусі Міхасю Тулейку. Плён ягонага жыцьця трывалы і будзе жыць у далейшай працы ягоных пераймальнікаў.

Я. З.

Сьвятой † Памяці








СЬВЯТОЙ † ПАМЯЦІ

## НАДЗЯ МАРОЗ

**7. I. 1923 — 6. III. 1998**

6-га сакавіка 1998 году адыйшла на вечны супачынак сьв. пам. Надзя Мароз.

Пахавальны абрад адбыўся ў касьцёлу сьв. Тэрэсы ў панядзелак 9-га сакавіка 1998 г. на магільнік St. Adalbert у Чыкага, ЗША.

Нябожчыца Надзя пакінула ў смутку дачку Ірэну з мужам і тры ўнучкі.

Пакойніца Надзя Мароз належала да парафіі Беларускай Царквы Хрыста Спаса ў Чыкага.

Хай будзе Ёй пухам амэрыканская зямля, а памяць пра Яе застанецца ў нашых сэрцах на доўгія гады.

*ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!*



## *ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ*

### *БЕЛАРУСКІМ І АМЭРЫКАНСКІМ ПАТРЫЁТАМ!!!*








Сьвятой Памяці

## ЯНКА ЯРАХОВІЧ

**7. VIII. 1932 — 30. I. 1998**

Нарадзіўся Янка Яраховіч 7-га жніўня 1932 г. у вёсцы Вулька, Лунінецкага р-на. Бацькі, Сымон і Агрыпіна, мелі невялікую гаспадарку, якую прыйшлося пакінуць, бо вывезьлі сям'ю Яраховічаў у 1943 г. у Нямеччыну. Вайна канчалася, савецкая армія прбліжалася, але Яраховічы не жадалі вярнуцца ў Вульку, пакольк ў 1939-41 гг. пазналі савецкую сыстэму. Калі даведаліся, што ў Остэргофэн арганізуецца беларускі лягер і ёсьць там беларуская школа, вясной 1947 г. пераехалі ў Остэргофэн. Янка паступіў у беларускую гімназію, запісаўся ў скаўты Другога Сьцягу Беларускіх Скаўтаў на Чужыне, прымаў актыўны ўдзел у скаўцкіх спаборніцтвах, быў сьціплым, працавітым, сяброўскім, сумленным гімназістам і скаўтам.

У 1950 г. сям'і Яраховічаў запрапанавалі працу ў фармера, штату Індыяна, куды яны пераехалі. Але выязджаючы з Нямеччыны даведаліся, што ў Кліўленд Міхась Белямук зьбірае беларусаў, арганізуе асяродак. Яраховічы вырашылі прасіць М. Белямука памагчы ім пераехаць з Індыяны у Кліўленд, Агаё. Сям'я Яраховічаў была даволі вялікая, бацькі мелі 4 сыны: Астапа, Міколу, Янку, Міхася і дачку Эву. Пашчасьціла Белямуку вынаняць дом з 12 пакоямі, каб беларусы, якія прыязджаюць маглі часова прыпыніцца, пакуль знойдуць кватэры. У гэтым доме ў сакавіку 1951 г. спыніліся Яраховічы. Янку пакінулі ў Індыяне, каб закончыў сярэднюю асьвету. Ён прыехаў у Кліўленд пазьней з дыплёмам абітурыента.

У пачатку 1952 г. Янку мабілізуюць у армію, рэкруцкае перашкаленьне праходзіць у штаце Нью Ёрк. У горадзе Нью Ёрк у тым часе было шмат беларускае моладзі і Янка часьцяком адведвае беларусаў ды знаёміцца з прыгожай зямлячкай з-пад Лунінца, Ганнай Емільяновіч. Неўзабаве яны пажаніліся. Цешыліся маладажоны ня доўга. Янку пасылаюць у Нямеччыну, дзе ён ганарова адслужыў у арміі і атрымаў ранг капрала, а ў 1954 г. дэмабілізаваўся, прыехаў у Нью Ёрк, забраў сваю каханую жонку Ганну і вярнуўся ў Кліўленд, дзе атрымаў працу. Прайшоў годзік, Ганка нарадзіла сына Міхася, бацькі і браты былі рады, што пачатак добры, — Яраховічы не зьвядуцца. Усе дапамаглі маладой сямейцы купіць невялікую хату. Ганна яшчэ нарадзіла двух сыноў — Янку і Дзімітра (Джыма).

Калі ў Кліўлендзе залажылі Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў 1950 г., то Янка стаў актыўным сябрам, удзельнічаў у Першым зьезьдзе ЗБМ. Ён не пакінуў арганізацыю моладзі нават тады, калі стаў бацькам. Быў таксама актыўным парафіянінам парафіі Жыровіцкае Божае Маці, шмат працы ўклаў у будову царквы ў 1959-60 гг. Нябожчык у 1968 і 1969 гг. выбіраўся на старшыню Парафіяльнае рады. Падчас ягонае кадэнцыі была сплачана банкаўская пазыка на пабудову царквы. Усе цешыліся з гэтае нагоды і ніхто з будаўнікоў ня думаў, што праз 25 гадоў Уладыка Мікалай царкву, збудаваную рукамі прыхажан, будзе прадаваць на разбурэньне, нішчыць гістарычны помнік беларускае эміграцыі.

Каля 1983 г. Янка з дапамогаю сыноў купіў прасторную хату — 25 міляў ад Кліўленду ў гарадку Бронсвік. Год пазьней прадпрыемства, дзе працаваў Янка збанкрутавала і ён застаўся без працы. Аднак гаровае звальненьне з арміі пасадзейнічала яму атрымаць федэральную працу. У 1995 г. ён захварэў, хвароба не ўтаймавалася і 30 студзеня 1998 г.. Янка Яраховіч адыйшоў у вечнасьць пакідаючы ў смутку жонку, сыноў і 5 унукаў. Паховіны былі ўрачыстыя, у пяршыню хавалі беларуса ў Кліўленд так пачціва.

Пасьля адпяваньня нябожчыка ў царкве Жыровіцкае Божае Маці сьвятарамі Міхасём Страпко і Дзімітрам Беленькім, труну пакрылі беларускім нацыянальным сьцягам і павезьлі на могліцы. Тут чакалі амэрыканскія вэтэраны з горада Бронсвік ва ўніформе з вінтоўкамі. Было іх 13 асоб, і яны пакрылі труну амэрыканскім сьцягам, выстраіліся ў два шпалеры праз якія пранесьлі труну за якой ішлі духавенства, жонка, сыны, унукі і харысты. Вэтэраны стаялі на зважай, трымаючы вінтоўкі "пад ружжо". Пасьля прачытаньня заўпакойнае малітвы і прасьпяваньня жалобнага гімну "Сьпі пад курганам герояў", вэтэраны далі тры залпы з вінтовак, а камандзір адыграў на трубе разьвітальны жаўнерскі марш.

Прысутныя пачалі класьці кветкі на труну і ўсе зычылі, каб амэрыканская зямля прыняла беларускага патрыёта і амэрыканскага жаўнера-вэтэрана спаўчувальна, а Ўсявышні дараваў яму людзкія жыццёвыя слабасьці.

*Міхась Белямук*